
Пушча Пятра Гагана ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


Праз тыдзень КАЛЯНДАР 2016

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3110) Год LX Беласток, 20 снежня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Шведскі пісьменнік Пер Вестберг, старшыня Нобелеўскага камітэта па літаратуры, выступіў з прамовай на ўручэнні Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч.**

Шаноўнае спадарства, Вашы Каралеўскія Вялікасці, паважаныя нобелеўскія лаўрэаты!

Альфрэд Нобель хацеў, каб гэтую прэмію атрымлівала асоба, якая стварыла найбольш выбітны твор ідэалістычнай скіраванасці. Святлана Алексіевіч выканала гэтае патрабаванне. «Галасы Утопіі» — яе сюіта з пяці кніг, якія апісваюць катастрофы XX стагоддзя — гэта літаратурны і маральны шэдэўр Алексіевіч. Складанне карты ментальнай гісторыі савецкага грамадзяніна, якую яна звязвае з магіламі, праліцём крыві і бясконцым дыялогам паміж катамі і ахвярамі, якія намагаюцца схаваць як мага больш. Яна кажа, што гэтыя творы — пра здушаны крык Расеі, пра мінулае, якое не павінна вярнуцца, пра непрымальны цяперашні час і пра будучыню, якая не дае надзеі. Як стэнограф у высокім судзе, яна пералічвае несправядлівасці, якія напаткалі непадрыхтаваных і безабаронных. Тут словы тысяч сведкаў першы і адзіны раз. Без яе яны ніколі б не пабачылі святла. Яна шукае моманту, які патрасае асобу да самай сутнасці. Як у галасах Чарнобыля, калі медсястра папярэджвае жанчыну, што яе каханы ператварыўся ў рэактар, што ён ужо не чалавек, але жанчына ігнаруе папярэджанне, і радыяцыя ад цела мужчыны забівае дзіця, якое яна носіць у сабе. Кніга робіцца папярэджаннем пра тое, як мінулае выпраменьванне дзесяцігоддзямі дыктуе нашы жыцці, нашу мараль. У кнізе «У вайны не жаночае аблічча» Алексіевіч апытвае пяцьсот з незлічоных жанчын, якія служылі ў Чырвонай Арміі. Яны расказваюць, як немцы з акопаў паказвалі адрэзаныя ногі палонных, пра маці, якая ўтапіла сваё дзіця, каб не выдаць сваю вёску, і пра тое, як жанчыны рабілі бігудзі з сасновых шышак. А потым дома на іх глядзелі як на салдацкіх курваў і ад іх адчужаліся іх сем'і. Мужчыны былі героямі, а жанчынам не давалі медалёў. Алексіевіч адкрывае аблічча зла працэсам праўды, дзе полымя спальвае хлусню, і мовай, якая паміж радкоў перадае маўчанне болю. Яна чакае, пакуль галасы не паселяцца ў ёй, набываючы рэзкасць. Гэта робіць яе найбольш чулліва сярод сучасных гісторыкаў і вынаходнікам жанру. Сваёй сухой празаічнасцю, сваімі намаганнямі трымаць вочы расплюшчанымі, а не запоўненымі слязамі, яна турбуе нас, сваіх чытачоў, асабліва сёння, у год патоку ўцекачоў, калі яе гісторыі ўпартасці і мужнасці бездапаможных больш актуальныя, чым калі-кольвечы. Узгадваўшыся ў культуры смутку, больш сканцэнтраванай каля лясоў Беларусі, — краіны, дзе быў забіты кожны чацвёрты — яна мае любоў да маленькіх людзей, а не да вялікіх ідэй. Вусны аповед гэта крыніца літаратуры. З дапамогай памяці людзі захоўваюць абрысы існавання. Даць гісторыі аблічча і зрабіць людзей бачнымі адnago за другім — гэта велікадушнае дзеянне, якое дакументалістыка пакідае ў спадчыну будучыні, а таксама непараўнальная мастацкае дасягненне. Выкарыстоўваючы як сваю таемную зброю апытанні і слуханне, Алексіевіч пранікае ў пачуцці таго дадатковага, на што не звярнула ўвагі гісторыя. Яна знаходзіць каханне і смерць, прагу ўлады і нечаканую салідарнасць. Яна называе сябе гісторыкам душы. Прадмет яе вывучэння — чалавечыя таямніцы. Алексіевіч аб'ядноўвае дакладнасць гісторыка з эмпатыяй паэта ў плачы, у якім адгукаецца рэхам увесь магчымы досвед. Яна дэтэктар хлусні і невычэрпная крыніца ведаў пра паслухмянасць як праклён і прапаганду, як спакусу — карацей, пра стан чалавека. Бо калі яна нас напружвае, ёсць толькі адно выйсце — пачаць любіць людзей, разумець іх з дапамогай любові.

# Ганарымся!!!
# Беларускі Нобель

**10 снежня, у міжнародны Дзень правоў чалавека традыцыйна адбываецца ў Стакгольме і Осла ўручэнне Нобелеўскіх прэмій. Сёлета Беларусь нарэшце займела сваю першую Нобелеўскую прэмію — лаўрэатам па літаратуры стала пісьменніца Святлана Алексіевіч. Беларуская пісьменніца атрымала Нобелеўскую прэмію з рук шведскага караля Карла Густава XVI. На банкеце ў Стакгольмскай ратушы лаўрэатка расказала свету пра Беларусь:**

Фота aftonbladet.se

"Я дзякую Шведскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую не маю права сабе прысвоіць. Я разумею яе, як паклон многім пакаленням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лабараторыі светлай будучыні, як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лагерах, на шахтах Магадана і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імперыя. Вялікая ідэя бязлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтататалітарызм розных масцяў — расейскі, беларускі, казахскі... Паволька і няўпэўнена выбіраемся мы з-пад абломкаў «чырвонай» імперыі. Адна з гераінь маёй кнігі «Час secondhand», у якой уся сям'я была выслана ў Сібір і там загінула, са слязамі на вачах спявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

Утро красит нежным светом
Стены древнего Кремля,
Просыпается с рассветом
Вся советская земля...
Кипучая,
Могучая
Никем не победимая
Страна моя,
Москва моя,
Ты самая любимая...

Мінуўшчына не выпускала яе са сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё адно верыла. У што? Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Менску, у аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!». Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасля жнівеньскага путчу 1991 года, калі Беларусь атрымала незалежнасць, ужо вырaслі некалькі пакаленняў. У кожнага з іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх збівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсць. Свабода — гэта не хуткае свята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем. Мы ўсе жывем у агульным свеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым свеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захаплення, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, англійскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха варварства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае. Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бяспечны свет. Я памятаю дыялогі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёння ўсё гэта здаецца прыгожай казкай. Цяпер мы сведкі новай схваткі дабра і зла. Сведкі і ўдзельнікі. Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Украіне з уцекачамі з Данбаса, я чула, як хутка злятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца звер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі на памяць. Пішу, нашто? Мяне называюць пісьменнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю слоў любові. Нянавісць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся... На развітанне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай зале прагучала беларускае слова, мова майго народа:

– У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: «Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужыны, а ўжо з сэрцам...». Я хачу паглядаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль".

svaboda.org, racyja.com


9 770546 196000



# Зямля абкрадзеная

Якіх толькі захопнікаў не пераджыла за апошнія тры стагоддзі шматпакутная беларуская зямля. Колькі за гэты час было ўсяго разбурана, колькі зруйнавана, колькі чалавечых душ ды целаў загублена. І вось толькі ў пачатку дзевяностых, калі дастаткова ціха сканаў Савецкі Саюз, выпаў шанц нешта стварыць, пабудаваць сваю дзяржаву, наладзіць гаспадарку, дасягнуць дабрабыту. Усе аўтарытэтныя эканамісты тады цвердзілі, што найлепшыя стартавыя магчымасці для развіцця з усіх былых рэспублік СССР — у Эстоніі і Беларусі. Пераходны перыяд быў няпросты, можна сказаць нават цяжкі. Але пачыналі адчыняцца межы, людзі пачалі ездзіць па тавар, стваралі свае гандлёвыя кропкі і новыя працоўныя месцы, патроху багацелі і рабіліся незалежнымі ад дзяржавы. Дзяржава ім не перашкаджала, не душыла непасільнымі падаткамі. Узнікалі палітычныя партыі, ішлі парламенцкія дыскусіі, была галоснасць і адкрытасць, свабода медый. Развіваўся і грамадскі сектар, утвораныя грамадскія арганізацыі плённа супрацавалі з мясцовымі ўладамі. Нягледзячы на значныя фінансавыя праблемы, культурнае жыццё ўдыхнула паветра на поўныя грудзі. Ставіліся помнікі нацыянальным героям, праводзіліся навуковыя канферэнцыі, закладалася традыцыя разнастайных уласна беларускіх і міжнародных фестываляў. Міліцыя яшчэ была праваахоўнай структурай, а не карнай. У судах не заўсёды, але можна было спадзявацца знайсці справядлівасць. Тое, пра што марылі пакаленні беларусаў, нарэшце збывалася.

Важна яшчэ помніць, што Беларусь на той момант была ледзь не адзінай постсавецкай краінай, дзе зусім не было ні нацыянальных, ні рэлігійных канфліктаў, ніякіх тэрытарыяльных, этнічных супярэчнасцей. Была, праўда, ні то правакацыя, ні то спроба недарэкаў абвясціць штосьці кшталту палескай самаідэнтыфікацыі і ў выніку — аўтаноміі, якая скончылася пшыкам. Ідэя, высмактаная з пальца, папросту не знайшла падтрымкі.

Беларусь, як зямля абяцаная, была надзвычай прывабнай. Гістарычны шанц выпаў унікальны. Аднак народу, які натуральна не паспеў пазбавіцца за пару гадоў ад стагоддзяў жорсткай русіфікацыі і дзесяцігоддзяў савецкасці, падсунулі ілжывага правадыра. Хмель простых рашэнняў і развязак ударыў у галаву многім, большыня зрабіла фатальна памылковы выбар. Краіну, якая цяжка, але афармляла сваю паўнацэнную дзяржаўнасць, развярнулі ў зваротным кірунку. Больш дваццаці гадоў яе зноў прывязвалі палітычна, ідэалагічна, ментальна, эканамічна, да ўсходняй імперыі, да гэтай нязменнай у сваёй агрэсарскай сутнасці Масквы. Ва Усявышняга, відаць, свая задума на наш вечна пакутлівы шлях. Таму калі чалавек плануе — то Бог смяецца. А калі Бог плануе — то чалавек плача.

Прайшло гэтых дваццаць гадоў і беларускі народ, як тая неабачлівая літаратурная гераіня, апынуўся ля трэснутага карыта. З гэтага карыта ўжо не накормяць як раней. Хіба што яшчэ напояць танным „чарнілам", ад якога апошнія мазгі павылятаюць. Нейк пачуў у аўтапарку размову кіроўцаў аўтобусаў. Аднаго аж трэсла ад шчасця, захлынаючыся слінай, калі расказваў калегу пра тое, як бліскуча Пуцін бамбіць Сірыю. Нармальны з выгляду чалавек, працаўнік, беларус і такое зацьменне мазгоў! Вось ужо сапраўды, калі Бог хоча каго пакараць, то забірае розум. Чаго ж чакаць ад гэтых ачмурэлых людзей...

А эканоміка Беларусі працягвае патроху спаўзаць у яму. Гэта як у фізіцы, паводле прынцыпу сазлучаных сасудаў. Валіцца ўсё ў Расіі — абвал ідзе і ў Беларусі. Таму што цэлы час у Мінску дэкларавалася шматвектарная эканоміка, а насамрэч усё завязвалася выключна на маскоўскага нафтагазавага феадала, на халяву і на ласку чужога гаспадара. А васал, колькі яго каралём не называй, васалам і застанецца.

Дык а што з нашай абяцанай, а насамрэч жорстка абкрадзенай зямлёй. Гісторыя напэўна падорыць Беларусі яшчэ адзін шанц. Тыя людзі, што доўгія гады не паддаюцца на несправядлівасць і хлусню, цэлы час яго наблізаюць.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Бедная Беларусь



Адзін з папулярных анекдотаў пра славутае ў камуністычныя часы Радыё Ерэван, як думаю, продак сумнавядомых таблоідаў, расказвае пра тое, як яго дзяжурны дыктар зваліўся ў жах, калі пасля звычайнай аб'явы пра бягучы час азваліся шматлікія тэлефонныя званкі ад забылтаных слухачоў патрабуючых выразнага адказу, ці ісці ім на працу, ці лягаць спаць. Як гэта?! — здзівіўся дыктар. — Я сказаў вам ясна, што сёмая гадзіна. — Ну, так, але сёмая раніцы, ці сёмая вечара?! — Гэтага вы не ведаеце? — зноў жа здзівіўся дыктар. — А мы не слухаем Радыё Ерэван? — яшчэ больш здзівіліся радыёслухачы.

Тыя часы, калі Радыё Ерэван было адзіным рупарам кіруючай улады, на шчасце, даўно прайшлі. Ці погляды вяшчанія ў ім былі правільнымі ці няправільнымі, гэта цяпер наймэнш важнае. На жаль, прыйшлі новыя часы, калі слушнасці занадта шмат, каб штосьці іншае было правільным. У рэальнасці, у якой мы жывем, пракраўся хаос. Працэй кажучы, мы страцілі кантроль над рэальнасцю, што, у сваю чаргу, зламала ў нас пачуццё ўнутранага парадку. Усё больш і больш адчуваем пагрозу ад тэмпу перамен, якія адбываюцца ў сучасным свеце. Спасылаемся на аўтарытэты. Прыслухоўваемся да іх галасоў на радыё, вышукваем іх разумныя твары ў тэлебачанні, шукаем у газетах іхніх талковых выказванняў. Ці знаходзім? І так, і не. У адных — такія, у іншых — сякія; кожнае абапіраецца на моцныя аргументы. Або супярэчаць адзін аднаму, што яшчэ было б не такім нервуючым. Або адмаўляюць наш кагнітыўны погляд на справы. Што яшчэ больш апускае нас у роспач. Ці не таму ўсё больш і больш сумуем па «старых добрых днях» — нічога, што яны здэфармаваны ўтапічнай фразеалогіяй, затое складаюцца з ясных, а не цьмяных паняццяў. У часы, калі кантраст крайнасцей, па меншай меры на ўзроўні артыкуляцыі, быў выразны, калі зло было злом, ясная ясным, а дурное — дурным...

Згодна са штораз больш распаўсюджаным перакананнем, наша цывілізацыя, мы, людзі сталі на краі прорвы. Вядома, гэтае перакананне настолькі разумнае, наколькі не адпавядае рэчаіснасці. Тут зноў кажа Радыё Ерэван — мы не стаялі, але, наадварот, рушылі наперад і не над прорвай, але на адзін крок далей... Хоць, з аднаго боку, гэтае перакананне зусім фальшывае, ды з другога — абсалютна сапраўднае. Ну, чорт вазьмі, невядома ў чым справа. Гэта так, як у славутай палкі, пра якую кажуць, што мае два канцы. І калі два канцы, дык гэта і два пачаткі? Інтуіцыя падказвае нам, што, праўда, «гэта верагоднае». А розум наадварот — «гэта немагчымае!» Але, кажучы лагічна, калі штосьці становіцца праўдападобным гэта адмяняе яго немагчымасць. Вонкава гэта гучыць складана, але на самой справе гэта вельмі проста. У сучасным свеце мае сэнс тое, чаму мы прыпісваем сэнс, нават нягледзячы на тое, што гэта бессэнсоўна. Прыкладам гэтаму з'яўляецца «таблоідная» інфармацыя пра тое, што «жаба праглынула бусла». «Разумова» мы разглядаем гэта як поўнае глупства. Але «па змаўчанні» чытаем гэта з разгарачаным тварам, бо калі б гэта была праўда?! Неверагодна, абсурдна, і ўсё ж... можа, праўда? Такім чынам, самая шчырая праўда.

Мабыць, Польшча пад уладай ПіС небяспечна набліжаецца да Беларусі, якой аўтарытарна кіруе прэзідэнт Лукашэнка. Набліжаецца ў сістэмным значэнні. Хачу адзначыць, што гэта не сенсацыя, вычытаная з таблоідаў. Інфармацыя такая прадстаўлена часткай сур'ёзных СМІ, спасылаючыся на словы яшчэ больш сур'ёзных экспертаў. Іншая справа, што другая частка кажа нешта зусім іншае. І таксама спасылаючыся на павагу цытаваных сабой экспертаў. Напэўна, не менш сур'ёзных, як першыя. Але, прызнаюся, мне лепш аддаць перавагу палітычнай рашучасці ПіС, якое прабуе навязаць Польшчы свой ідэалагічны дыктат, чым не цэніць галасоў экспертаў вельмі крытычных да гэтай партыі. Наколькі дэмакратыя прыжылася ў польскіх палітычных і грамадскіх рэаліях — праверым гэта на працягу тыдняў, месяцаў, гадоў. У свеце, у якім сэнсоўным з'яўляецца тое, што мае сэнс, усё магчыма. Нават такі факт, што жаба паглыне ўсё ж бусла, а Польшча так моцна наблізіцца да Беларусі, што ёй не застанецца нічога іншага, акрамя таго як анексаваць яе добраахвотна з усім яе палітычным і грамадскім інвентарам. Ой, бедная Беларусь.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Лісты прэзідэнта

У мітусні вялікай палітыкі, асабліва авантуры вакол Канстытуцыйнага суда, у асноўны паток сродкаў масавай інфармацыі не дасталіся іншыя дзеянні прэзідэнта Анджэя Дуды, у тым ліку ў дачыненні да меншасцей у Польшчы. А ў той час, 9 снежня — згодна з традыцыяй, пачатай прэзідэнтам Лехам Качынскім — ён запаліў у Прэзідэнцкім палацы ханукавую свечку, каб такім чынам адсвяткаваць Хануку разам з прадстаўнікамі габрэйскай абшчыны.

— Я хацеў бы, каб полымя ханукавае свечкі свяціла па ўсёй краіне, даючы радасць, цяпло, даючы пачуццё супольнасці, якое ўсім нам так вельмі патрэбнае, — сказаў з гэтай нагоды.

Раней (5 снежня) перадаў ліст з нагоды 65-годдзя Яўрэйскага грамадска-культурнага таварыства. У той жа дзень накіраваў ліст з нагоды закладкі і асвячэння краевугольнага каменя пад будову праваслаўнай царквы Агія Сафіі — Мудрасці Божай у Варшаве. Царква ўзнікае па вул. Пулаўскай, 568. Цырымонія праходзіла пад старшынствам сусветнага, канстанцінопальскага патрыярха Варфаламея І. Храм з'яўляецца вотумам удзячнасці Богу за дар 25-годдзя дэмакратычных змен у Польшчы і 90-годдзя статусу аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў нашай краіне. Будынак будзе сучаснай інтэрпрэтацыяй Агія Сафіі ў Канстанцінопалі (цяпер Стамбул). Гэта будзе — як можна прачытаць у камюніке Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы — таксама малітоўнай «падзякай праваслаўным продкам, якія аддалі сваё жыццё і кроў на алтар служэння Богу і краіне.» Таму ў фундаментах варшаўскай Агія Сафіі спачываць будзе зямля з-пад варшаўскага храма Святой Тройцы пры вуліцы Падвале, 5. Падчас паўстання 1944 года даў ён прытулак абаронцам Варшавы, і адразу ж пасля паўстання быў разбураны. Ляжа тут таксама зямля з вул. Вольскай, 138, дзе ў 1944 г. нямецка-фашысцкія войскі закатавалі дзяцей і педагогаў з тамашняга праваслаўнага прытулку. Царква «таксама будзе ўвекавечваць праваслаўных абаронцаў Айчыны з-пад Грунвальда, Хоціна, Леніна, Монтэ-Касіно, праваслаўных паўстанцаў Варшавы, афіцэраў забітых у Катыні, Медным, Харкаве і многіх іншых верных сыноў Рэчы Паспалітай». Прэзідэнт (асабіста сустрэўся з патрыярхам) з гэтай нагоды напісаў м.інш. «Гэта таксама важны дзень для ўсіх, хто ведаюць і высока цэняць гістарычныя традыцыі нашай краіны. Шматнацыянальная і шматканфесійная, адкрытая і талерантная Рэч Паспалітая заўсёды была і сёння з'яўляецца агульным домам і агульным дабром сваіх грамадзян. Як Прэзідэнт Рэчы Паспалітай я хацеў бы выказаць задавальненне тым, што польская Праваслаўная царква — супольнасць, якая на працягу стагоддзяў уфармавала многіх выдатных асоб нашай краіны — па-ранейшаму актыўна ўдзельнічае ў пабудове грамадскага жыцця ў адпаведнасці з прынцыпамі і каштоўнасцямі, на якіх заснавана наша цывілізацыя». Адзначыў: «Сучасны свет вельмі патрабуе адзінства і пераадольвання гістарычных падзелаў. Нам цяпер трэба пераканаўчых доказаў клопату пра агульнае дабро і ахвярнасці ў будаванні міру і справядлівасці. Патрэбна нам большая абарона правоў сям'і і паўторнае адкрыццё вялікай духоўнай спадчыны гэтай часткі свету, якую калісьці апісвалі як *Christianitas*».

У сваю чаргу, 7 снежня, у Каралеўскім замку ў Варшаве адзначалі 90-годдзе польскага ПЭН-клуба. З гэтай нагоды спецыяльнымі юбілейнымі прызамі за выдатныя дасягненні ў галіне перакладу польскай літаратуры на замежныя мовы ўзнагароджаны былі перакладчыкі, у тым ліку Андрэй Хадановіч — перакладчык на беларускую мову паэзіі, між іншым, Канстанты Ільдэфонса Галчынскага, Збігнева Герберта і Яцка Качмарскага. У цырымоніі прыняў удзел прэзідэнцкі міністр Войцех Калярскі. Ён зачытаў ліст прэзідэнта, які звярнуўся да пераможцаў: «Я перакананы, што ваша перакладчыцкая праца спрыяе лепшаму ўзаемапазнанню палякаў, немцаў, беларусаў і ўкраінцаў. Я думаю, што гэта вельмі важна, каб мы чыталі творы аўтараў, творчасць якіх вырастае з гістарычнага вопыту іншых народаў і выказвае іх уласную перспектыву бачання свету. Такім чынам мы ствараем прастору для ўзаемнага разумення і добразычлівасці, якая спрыяе супрацоўніцтву таксама на іншых, пазалітаратурных палях». Гэты апошні сказ я пакідаю тут у якасці пуэнты.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Бежанства ў беларускім космасе (4)

**У днях 12-13 лістапада ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры прайшла навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Бежанства 1915 года ў гісторыі і традыцыі беларусаў Падляшша”, ладжаная Беларускім гістарычным таварыствам. У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі мінуўшчыны з Расіі, Латвіі, Беларусі і Польшчы...**


Уладзімір Снапкоўскі


Люба Козік


Славамір Іванюк


Марэк Орцюх


Галіна Сурыновіч

**Уладзімір Снапкоўскі** з Мінска расказаў пра іншае бежанства — пра бежанства з савецкага „раю”, якое адбывалася семдзесят гадоў таму, зараз пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. І пра месца бежанцаў у тадышняй дзейнасці савецкай дыпламатыі. Менавіта пасля згаданай вайны за межамі СССР апынулася, паводле савецкіх энцыклапедый, каля сямі мільёнаў савецкіх грамадзян, якія або былі прымусова вывезены або дабравольна пакінулі тэрыторыю СССР пад страхам катавання з боку савецкіх улад за супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі; Молатаў гаварыў нават пра дзесяць мільёнаў, што апынуліся на тэрыторыі Германіі і Аўстрыі. Пачалася рэпатрыяцыя — прымусовая і дабравольная. У СССР да 1953 года вярнулася каля пяці з паловай мільёна чалавек. Значная колькасць людзей аставалася па-за межамі Саюза і не жадала вяртацца. З Беларусі па-за межамі дзяржавы знаходзілася каля чатырохсот тысяч чалавек. Да канца 1945 года на тэрыторыю Беларусі вярнулася больш за дзвесце тысяч асоб. Савецкі ўрад прыкладаў намаганні, каб з дапамогай міжнародных установаў вярнуць іх пад сваю ўладу. Тут працавалі і эканамічныя прычыны, бо ж за межамі краіны прабывала вялікая колькасць працаздольнага насельніцтва, вельмі ў той час патрэбнага для адбудовы з ваенных знішчэнняў. Была таксама прычына прапагандысцкая, якая паказвала б прывабнасць СССР для рэпатрыянтаў. У 1945 годзе савецкі ўрад падпісаў з урадамі ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі пагадненні, якія прадугледжвалі прымусовую рэпатрыяцыю. У 1946 годзе дэлегацыя СССР унесла праект рэзалюцыі па пытаннях бежанцаў, якая дазваляла б аказваць дапамогу бежанцам толькі па згодзе дзяржавы, з якой яны паходзілі і забараняла б весці агітацыю супраць іх вяртання. Амерыканская дэлегацыя была за тым, каб не прымушаць да вяртання на радзіму і не працідзейнічаць выдачы ваенных злачынцаў. Была створана міжнародная арганізацыя па справах бежанцаў МАБ. Спярша прадстаўнікі ўсходнееўрапейскіх дзяржаў паставіліся прыхільна да гэтай арганізацыі, але калі высветлілася, што МАБ не будзе прымушаць да вяртання бежанцаў, цікавасць да гэтай арганізацыі з боку сацыялістычных дзяржаў прапала. Ставіўся націск на выдачу ваенных злачынцаў. Заходнія дзяржавы патрабавалі доказаў тых злачынцаў, на што савецкі бок ставіў пытанне: „А якія ж тут доказы яшчэ патрэбны?”, так тых доказаў і не прадстаўляючы. Беларуская дэлегацыя ў ААН запатрабавала ад заходніх дзяржаў прадставіць спісак асоб, якія не жадалі вяртацца, а гэта абазначала пагрозу рэпрэсій у адносінах да іх сем’яў; гэтыя прапановы былі адхілены. У 1951 годзе была створана новая арганізацыя па дапамозе бежанцам Упраўленне вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў (яна працуе па сённяшні дзень), але савецкія дэлегацыі паставіліся да яе адмоўна, не прыступілі да яе, матывуючы тым, што яна дапамагае контррэвалюцыянерам; толькі ў 1990-х гадах яны далучыліся да гэтай арганізацыі. У палове 1950-х гадоў савецкае стаўленне да бежанцаў змякла, калі новыя ўлады прыйшлі да вываду, што ўжо тых людзей, якія асталіся на Захадзе, немагчыма вярнуць. Паводле савецкай канцэпцыі бежанец гэта ўласнасць дзяржавы, бяспраўная асоба, якая павінна вярнуцца ў камуністычны „рай”. Паводле заходняй канцэпцыі бежанец меў права на выбар месца пражывання.

**Люба Козік** расказала пра асвятленне праблемы бежанства часу Першай сусветнай вайны ў абагульняючых выданнях па гісторыі Беларусі з апошніх дваццаці пяці гадоў. У двухтомнай працы „Нарысы па гісторыі Беларусі”, выдадзенай у 1994 годзе, згадвалася пра бежанства, падкрэсліваючы велізарныя эканамічныя затраты насельніцтва — гэта адзінае выданне, якое кранала гэтую тэму; пра іншыя аспекты бежанства там не згадвалася. Паведамлялася, што ў бежанства падалося 1,3 млн. людзей, пераважную большасць якіх складалі жанчыны і дзеці. Зноў у дапаможным вучэбніку з 1997 года згадвалася, што прымусовым бежанствам былі ахоплены мужчыны ў мабілізацыйным узросце; пра іншыя катэгорыі насельніцтва там не было згадкі. Тут жа, так як і ў раней названай пазіцыі, была мова пра ўмовы жыцця бежанцаў, што жылі яны пад адкрытым небам, у голадзе, пад абстрэлам. Не было выдання, якое комплексна апісала б бежанства, апісваліся толькі выбраныя яго аспекты. Ёсць і такія выданні па гісторыі Беларусі, у якіх і зусім пра бежанства не згадваецца., а калі і згадваецца, то прычынай падаецца жорсткасць нямецкіх войск, без заўвагі пра прымушальныя дзеянні казакоў.

**Славамір Іванюк** расказаў пра метрычныя кнігі праваслаўных прыходаў Беласточчыны. Каталіцкія метрычныя акты да 1918 года пісаліся на расійскай мове, якая да адраджэння польскай дзяржавы была дзяржаўнай. Першыя запісы касцельных метрычных запісаў на польскай мове з’яўляюцца на Беласточчыне ў 1918 годзе, а апошнія на расійскай мове годам пазней. Толькі пасля ўстанаўлення ў лютым 1919 года польскай адміністрацыі апошнія ксяндзы рашылі, што царская ўлада не вернецца і яны сталі паводзіць сябе як чыноўнікі ўладнай дзяржаўнасці. Калі гаворка пра царкоўныя метрычныя кнігі, то лёс шматлікіх іх з часу бежанства невядомы. Частка з іх, датаваная гадамі 1914-1915, вярнулася на Беласточчыну ў 1963 годзе ў рамках рэпатрыяцыі архіўных матэрыялаў з былога СССР. Некаторыя з іх захоўваліся ў адлеглых мясцовасцях Расіі і не ўсе тады вярнуліся ў свае прыходы. У межах Польшчы праваслаўнае духавенства стала весці метрычныя кнігі на польскай мове з 1924 года; здараліся і двухмоўныя.

**Марэк Орцюх** з Беластока расказаў пра апісанне бежанства ў міжваеннай і пасляваеннай прэсе. У беластоцкай прэсе міжваеннага перыяду згадкі пра эвакуацыю з’яўляліся спарадычна і вельмі агульна, не акрэсліваючы нават года падзеі. Падаецца, што гэтая тэма ў полі зроку тадышніх журналістаў была прыкрыта пазнейшымі падзеямі — расійскай рэвалюцыяй, вяртаннем незалежнасці Польшчы і польска-бальшавіцкай вайной. Да таго ж бежанства датычыла, галоўным чынам, праваслаўнага насельніцтва, на якое ў міжваенны перыяд кіраваўся ціск паланізацыі, і згадванне пра яго ўцёкі ў Расію не бачылася карэктным. У пасляваенны перыяд таксама не было згадак пра бежанства, нават у „Ніве” да 1990 года гэтая падзея не вылучалася; галоўным гістарычным стрыжнем тагачаснага тыднёвіка была Другая сусветная вайна, сярэднявечная гісторыя Беларусі і ў меншым маштабе ўспаміны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пералом наступае ў пачатку 1990-х гадоў, не толькі на старонках „Нівы”, бо паяўляюцца новыя медыі. Напрыклад, „Przegląd Prawosławny” шмат увагі адводзіць лёсу Праваслаўнай царквы пасля бежанства, калі вярнуўшыеся вернікі даведваліся, што пакінутая царкоўная маёмасць ужо перанята Каталіцкім касцёлам. Паяўляліся згадкі пра бежанства і ў польскамоўных выданнях. Зладжаная захадамі дэпутата Сейма Яўгена Чыквіна адмысловая выстава ў польскім парламенце дала нейкі плён, напрыклад вядомы польскі палітык Януш Корвін-Міке, выпадкова пабачыўшы выставу, звярнуў увагу, што ў польскай публічнай прасторы шмат гаворыцца пра Вялікую эміграцыю пасля Лістападаўскага паўстання 1831 года, у якую падалося некалькі тысяч асоб, а зусім невядома пра тую падзею 1915 года, якая ахапіла некалькі мільёнаў чалавек.

**Яўген Вапа** заўважыў, што ў Беластоку арганізуецца Музей Сібіры і ён прапануе, каб у яго рамкі ўключыць таксама і бежанства — тую вялікую траўму насельніцтва Беласточчыны.

**Марэк Орцюх** падтрымаў гэтае выказванне, заўважаючы, што бежанства мала вядомае, нават шмат якія настаўнікі гісторыі ў беластоцкіх школах пра яго не ведаюць. А падзея ж была важным элементам супольнай гісторыі Беласточчыны. Адносячыся да міжваеннага перыяду, пра прамоўчванне бежанства ў той час, прамоўца звярнуў увагу, што тады была іншая гістарычная палітыка, быў іншы гістарычны лейтматыў, быў паланізацыйны націск на праваслаўнае насельніцтва, у афіцыйнай прасторы не было бежанству месца, але захавалася яно ў грамадскай памяці.

**Яўген Мірановіч** прыгадаў, што пра бежанства ёсць шмат напрацовак у польскай навуковай літаратуры, але ў аспекце польскай эвакуацыі — эвакуацыі заводаў і ўстаноў, якая была даволі старанна спланавана. Шмат гаворыцца ў польскай гістарычнай літаратуры пра польскія бежанскія арганізацыі, у тым ліку і польскія палітычныя і вайсковыя групоўкі, у якіх былі канкрэтныя палітычныя мэты, агучваныя ў выдаваных імі лістоўках ці іншых дакументах. Затое наша бежанства было бежанствам сялянскіх мас, якія падаваліся ў Расію з адной толькі мэтай — выжыць.

**Анэта Прымака-Онішк** дадала да гэтага, што польскія ўспаміны бежанства спыняюцца толькі на польскім аспекце гэтай падзеі. Напрыклад успаміны вяртання з Расіі будучага прэзідэнта Станіслава Вайцяхоўскага ці іншых асоб згадваюць, што этнічных палякаў сярод вяртаючыхся бежанцаў было каля дваццаці адсоткаў, а рэшту складалі „рускія”, беларусы і ўкраінцы, але шырэйшай інфармацыі пра тыя восемдзесят адсоткаў ужо няма. Польскі ўсходні лейтматыў засяроджваецца галоўным чынам на „męczeństwie Sybiru”, а іншыя аспекты прападаюць. Нават расійскія гісторыкі, свядомыя ссылак польскага насельніцтва, бываюць здзіўлены маштабнай падзеяй, якая ссылкай не была. Бежанства ва ўяўленні многіх астаецца свайго роду беспрасветнай „чорнай дзірай”.

**Галіна Сурыновіч** расказала пра арганізацыю праваслаўных прыходаў на Беласточчыне ў 1918-1924 гг. Прыехаўшыя на радзіму бежанцы засталі тут не толькі запушчаныя свае гаспадаркі, але і закінутыя цэрквы, частка з якіх ужо не належала ім. У адроджанай Польшчы праваслаўныя сустрэліся з непрыхільнасцю, а нават з варожасцю. Улады бачылі ў Праваслаўнай царкве апору непрыхільнай Польшчы расійскасці. Каталіцкаму касцёлу былі вернуты ранейшыя каталіцкія і ўніяцкія аб’екты. Была рэдукавана колькасць праваслаўных прыходаў дзеля выгаднейшага нагляду за імі. Да таго ж вызваленая праваслаўная маёмасць мела стаць базай для пасялення польскіх асаднікаў. Усё ж такі ўлады мусілі лічыцца з міжнароднымі абавязацельствамі адносна шанавання меншасцей; царкоўнае жыццё стала адраджацца. Аднак з 81 прыхода, дзейнічаючых да вайны ў Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах, пасля вайны былі ўзноўлены толькі 19. Таксама манастыры ў Супраслі і Краснастоку апынуліся ва ўладанні Каталіцкага касцёла.

**Яўген Чыквін** дадаў да сказанага, што ў 1989 годзе яшчэ пээнэраўскі, кіраваны ПАРПам Сейм прыгатаваў праект закона, у сілу якога ўсе нерухомасці, якія раней належалі Уніяцкай царкве, мелі стаць безапеляцыйнай уласнасцю Каталіцкага касцёла. А гэта абазначала, што ўсе, з выключэннем толькі новазбудаваных, цэрквы мелі стаць каталіцкімі. Гэта меў быць свайго роду „падарунак” ад тадышніх улад у карысць новай палітычнай хвалі. Наспяваў канфлікт, аднак своечасова ўключыўся ў гэта прафесар Анджэй Стэльмахоўскі і той запіс пра вяртанне ўніяцкай уласнасці быў з праекта выкінуты.

На канферэнцыю былі заяўлены і іншыя цікавыя даклады, аднак не ўсе дакладчыкі з’явіліся. Усё ж такі канферэнцыя дазволіла глянуць на бежанства 1915 года з новай перспектывы, з больш „узрослай” чым дасюлешняя, вельмі інфантыльная, бачаная вачыма тадышніх дзяцей, якіх успаміны ўдалося яшчэ запісаць.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Белавежская пушча на карцінах Пятра Гагана

**Пётр Гаган** — гайнавянін ад нараджэння, які малюе звыш 40 гадоў. 6 снежня ў галерэі «Гайна» Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы адкрылася выстава яго алейных і акрылавых карцін, на якіх намалявана перш за ўсё Белавежская пушча. Мастак бачыў яе штодзень, працуючы ў вайсковай часці ў Нязнаным Бары, распалажаным сярод пушчанскіх дрэў непадалёк ад Гайнаўкі. Пасля наведваў ён пушчу, будучы кіраўніком кінатэатраў у Белавежы і ў Гайнаўскім белмузеі. Амаль год Пётр Гаган жыў у Беларусі і меў магчымасць пазнаёміцца з Белавежскай пушчай з другога боку мяжы.



Пётр Гаган



— Пётр Гаган лічыць сябе беларусам. Ён — адзін з самых лепшых мастакоў нашага рэгіёна. Мы выдалі міні-альбом з рэпрадукцыямі яго карцін і інфармацыяй аб яго творчасці. Альбом уваходзіць у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў». З мэтай прапагандавання творчасці нашых мастакоў альбомы рассылаем ва ўніверсітэцкія бібліятэкі і іншыя ўстановы ў Польшчы, каб жыхары вялікіх гарадоў мелі магчымасць даведацца пра беларускіх мастакоў і іх творчасць. У белмузеі арганізуем выставы для нашых мастакоў у рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Праект карыстаецца фінансавай падтрымкай Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Пётр Гаган арганізаваў кіно ў нашым белмузеі і кіраваў ім у першым перыядзе яго дзейнасці. Ахвотна наведвае наш белмузей і цікавіцца нашымі справамі. Ён вельмі актыўны чалавек і калі жыў у Гайнаўцы, актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю ў нашым горадзе, быў членам управы Таварыства сяброў Гайнаўкі. Калі наша арганізацыя ладзіла мастацкі пленэр у Гайнаўцы, Пётр Гаган быў яго камісарам і займаўся арганізаваннем гэтага пленэру. З 1997 года мы арганізуем выставы яго жывапісу ў нашым музеі. Цяпер адкрываем выставу і выдаем альбом пра заслужанага для Гайнаўкі чалавека, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

У 2002 годзе ў белмузеі адбылося юбілейнае мерапрыемства, прымеркаванае да 50-годдзя з нараджэння Пятра Гагана, у якім удзельнічаў Віктар Швед.

— Віктар Швед з'яўляецца іконай беларускіх пісьменнікаў у Польшчы. Яго творчасць асабліва мне падабаецца, гэта мой сваяк, — заявіў спадар Пётр.

Запрошаных гасцей прывіталі і адкрылі выставу дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк і сам Пётр Гаган.

— Наша пушча вельмі зялёная і сакавітая, таму так захапляюцца ёю замежныя турысты. Я таксама захапляюся пушчай, а свае ўражанні ад пушчы і ўнутраныя перажыванні пераліваю на палотны. Прэзентаваныя на выставе карціны паўсталі на працягу апошняга года і паказваюць прыгожасць пушчанскага лесу. Я прымаю ўдзел у шматлікіх пленэрах, у розных гарадах нашай краіны паказваю прыгожасць нашай пушчы на сваіх карцінах. Арганізаваў я пленэры ў Нараўцы, маляваў у Свіслачы ў Беларусі. Падчас маіх замежных выездаў я таксама малюю. Замежныя краявіды відаць таксама на сённяшняй экспазіцыі. Працы сёння прэзентаваныя паказваліся ўжо на выставе ў Заграбе, дзе харвацкай публіцы асабліва спадабаліся краявіды з Белавежскай пушчай, — сказаў Пётр Гаган.

У галерэі «Гайна» прэзентуецца пушчанскі лес у розныя поры года. Бачым яліну, сосны, бярозы, дубы. Красуюцца дрэвы рознай велічыні. На карцінах самы важны клімат пушчы. Спадар Пётр умее назіраць асаблівасці пушчы, у яго ёсць умеласць пераліць прыгожасць лесу, кустоў на свае працы. На выставе знаходзяцца таксама карціны, выкананыя ў розных месцах Польшчы і па-за межамі краіны. На работах гайнаўскага мастака відаць даліну ракі Нараўкі падчас чатырох пор года, Атлантычны акіян і французскія краявіды Брэтані.

— Прэзентаваныя тут карціны наглядна паказваюць, што жывапісец моцна палепшыў свой варштат працы. Калі б я рэкамендаваў нейкай прыезджай асобе паглядзець карціны з трапным адлюстраваннем нашай пушчы, то прапанаваў бы жывапіс Пятра Гагана, — сказаў гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі.

У Гайнаўскім белмузеі былі наладжаны дзве персанальныя выставы карцін Пятра Гагана. Яго карціны прэзентаваліся таксама на калектыўных выставах у белмузеі.

— Важны свет, які маем у сабе. Творчасць дазваляе выцягваць з яго універсальныя або асаблівыя вартасці. Мастацтва Пятра Гагана гэта напоўна асаблівая вартасць, — заявіў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

Пётр Гаган раней быў верны рэалістычнаму мастацтву і найахвотней маляваў пейзажы, часта Белавежскую пушчу ў розныя поры года, падляшскія палі і дарогі, старыя хаты. Намаляваў таксама Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы, даўнюю архітэктуру Гайнаўкі, з мураваным вакзалам, які быў разбураны, і сучасную архітэктуру Гайнаўкі. Яго карціна з Царскім палацам у Белавежы была ўзнагароджана. Спадар Гаган малюе таксама нацюрморты, партрэты і нават батальныя сцэны.

— Прывязанасць да месца, дзе нарадзіўся спадар Пётр відаць на яго карцінах. Мастак шмат падарожнічае і тыя месцы адлюстраваны на яго працах. Паўсталі працы з цэрквамі з расейскай Кастрамы, ці з краявідамі з Брэтані. Аднак найчасцей і найахвотней на сваіх працах адлюстроўвае краявіды Белавежскай пушчы і Падляшша, умела перадае дух і характар рэгіёна. Пётр Гаган пачынаў ад рэалістычнага жывапісу, пазней пайшоў у напрамку імпрэсіянізму, далей ідзе сваёй дарогай. Я думаю, што робіць добра, бо яго апошнія карціны самыя спелыя. Калі параўнаць іх з ранейшымі працамі, відаць розніцу. Жывапісец набыў вопыт, што асабліва відаць на краявідах Белавежскай пушчы. На працах мастака вялікае значэнне мае колер, які будуе кампазіцыю карціны, пры адначасным аслабленні формы лініі, — гаварыла Агнешка Ціханюк, адказаная за мастацкую дзейнасць у Гайнаўскім белмузеі. Падрыхтавала яна графічны праект альбома пра Пятра Гагана.

— Першую персанальную выставу прац Пятра Гагана мы арганізавалі ў нашай бібліятэцы ў 1996 годзе. Гэта было штуршком для далейшай працы Пятра, які з гэтага часу стаў больш маляваць і паказваць свае карціны. Ён цудоўна малюе, з'яўляецца сяброўскім чалавекам, адкрытым на іншых людзей, актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю ў Гайнаўцы. Добра, што альбомы з рэпрадукцыямі яго карцін трапяць у бібліятэкі вышэйшых навучальных устаноў, — сказала дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц і дабавіла, што чарговая выстава карцін Пятра Гагана плануецца ў яе бібліятэцы.

Пётр Гаган нарадзіўся ў 1952 годзе ў Гайнаўцы. Вучыўся ў Студыі культуры і асветы ў Варшаве, а маляваць пачаў у 1972 годзе. Прымаў ён удзел у шматлікіх пленэрах, некаторыя сам арганізаваў. Працы мастака паказваліся на выставах у Гайнаўцы, Незнаным Бары, Дубічах-Царкоўных, Нараўцы, Белавежы, Будах, Нарве, Чаромсе, Бельску-Падляшскім, Вышкаве, Беластоку, Супраслі, Сувалках, Варшаве, Дэмбліне, Модліне, Любліне, Гдыні, Быдгашчы, Серадзы, Закапаным, у Беларусі ў Свіслачы і нядаўна ў Заграбе ў Харватыі. Карціны Пятра Гагана знаходзяцца ў розных калекцыях у Польшчы, Беларусі, Расіі, Ізраілі, Нямеччыне, Іспаніі, Вялікабрытаніі, Харватыі, Рэспубліцы Паўднёвай Афрыкі і Францыі. Калекцыя карцін Пятра Гагана сабралася таксама ў Гайнаўскім белмузеі.

— Я захоплены працамі Пятра Гагана. Яго карціны з'яўляюцца інспірацыяй для маёй творчасці. Я таксама стаў адыходзіць ад рэалістычнага жывапісу і шукаю сваёй дарогі ў мастацтве, — сказаў дырэктар Воднага парку ў Гайнаўцы Мірослаў Хіліманюк, лаўрэат Агляду непрафесійнага мастацтва ў Гайнаўцы.

— Раней Пётр Гаган таксама перамагаў на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. Пазней стаў маляваць больш прафесійна і перастаў прымаць удзел у нашым аглядзе. Мне вельмі падабаюцца карціны, якія паказваюць прыгожасць Белавежскай пушчы, — заявіў дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч.

— Я не думаў, што Белавежская пушча такая прыгожая. Намаляваная Пятром Гаганам становіцца яшчэ больш цудоўнай, — заявіў Ян Хомчук, дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў «Еўрарэгіён Белавежская пушча», які гуртуе пушчанскія і прыпушчанскія самаўрады.

На адкрыцці выставы з песенным рэпертуарам і пад акампанемент свайго сябра выступіў Збігнеў Будзынскі, таксама гайнаўскі жывапісец.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

*Да юбілею народнага майстра Беларусі Марыі Кулецкай*

# Маляванкі па-пружанску

**Напрыканцы лістапада 2015 г. у музеі-сядзібе „Пружанскі палацык" адкрылася выстава „Свет у каляровых промнях", на якой прадстаўлена больш за паўсотні работ народнага майстра Рэспублікі Беларусь Марыі Мікалаеўны Кулецкай. Выстава прысвечана юбілею вядомай мастачкі з Пружан і з'яўляецца своеасаблівай рэтраспектывай яе творчасці ў тэхніцы „роспіс па шкле".**



Аб такіх як Марыя Кулецкая ў народзе кажуць — мае „залатыя рукі". Яна добра знаёма з рознымі відамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, між іншым, пляценнем, вышыўкай, ткацтвам, выцінанкай, лепкай, аплікацыяй. Але найбольшую вядомасць ёй прынеслі менавіта „маляванкі", якімі майстрыха займаецца амаль 20 год. Дзякуючы ёй, „шкляныя карціны" сёння сталі новым своеасаблівым сімвалам Пружан. Трэба адзначыць, што менавіта Марыя Кулецкая стаяла ля вытокаў адраджэння гэтага віду традыцыйнай творчасці ў Беларусі і ўвесь час нястомна вядзе працу па яго развіцці, праводзячы шматлікія майстар-класы, прэзентацыі і выставы ў Беларусі, Польшчы, Літве.

Сёння даволі шмат мастакоў і аматараў выконваюць карціны на шкле, але „маляванкі" Кулецкай працягваюць займаць сярод іх асобнае месца, маюць істотныя адрозненні. Добра валодаючы акадэмічнай манерай пісьма (па адукацыі Марыя Мікалаеўна мастак), яна на першае месца ў сваіх творах паставіла натуральнасць і народнасць. За нібыта простым выкананнем, не вельмі глыбокім сюжэтам, нескладанай каляровай гамай, хаваюцца сапраўдныя мастацкія творы. Яе „шклінкі" не ўспрымаюцца як штосьці спрошчанае і беззмястоўнае. За гэтай „прастатой" бачыцца народны густ, пачуццё меры, дасканалае валоданне тэхнікай, паважлівае стаўленне да сюжэтнай лініі. Нягледзячы на тое, што прыкладам для творчасці М. Кулецкай былі работы самадзейных мясцовых майстроў сярэдзіны XX ст., яе творы не сталі капіраваннем даўніх узораў. Пружанская мастачка, адштурхнуўшыся ад прыёмаў і метадаў традыцыйных „вясковых маляванак", прафесійна пераасэнсавала лепшыя прыклады народнай творчасці і фактычна вывела гэты від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на якасна новы ўзровень, дазволіўшы яму арганічна ўпісацца ў сучаснае жыццё, адначасова захоўваючы непарыўную сувязь з мінуўшчынай.








На выставе ў музеі-сядзібе прадстаўлены як творы, якія ўжо вядомы шырокаму гледачу, адзначаліся ўзнагародамі, выстаўляліся на розных пляцоўках у Беларусі і Польшчы — гэта „Легенда аб Мухаўцы" і „Пружанскі палацык", якія ў 2010 г. сталі фіналістамі рэспубліканскага конкурсу „Лепшы беларускі сувенір", серыі работ „Беларускія народныя святы" (2011 г.) і „Помнікі архітэктуры Пружан" (2000 г.), так і новыя работы аўтаркі — „Ружанскі палац", „Раждаство", „Вялікдзень", „Палявыя кветкі", „Кацяняткі ў кошыку", „Галубкі" і іншыя.

Персанальная выстава народнага майстра Беларусі Марыі Кулецкай будзе экспанавацца ў музеі-сядзібе „Пружанскі палацык" на працягу двух месяцаў.

**Наталля Пракаповіч,**
**галоўны захавальнік фондаў**
**музея-сядзібы „Пружанскі палацык"**

## Алег Латышонак узнагароджаны Крыжам Свабоды і Салідарнасці

21 дзеяч апазіцыйнага руху „Салідарнасць" 80-х гадоў з Падляшша адзначаны Крыжам Свабоды і Салідарнасці. Урачыстасць прайшла 8 снежня ў Беластоцкім аддзяленні Інстытута нацыянальнай памяці. Сярод адзначаных быў таксама беларус, прафесар Алег Латышонак:

— Для мяне важна не толькі тое, што атрымаў Крыж, а і тое, што сустрэў столькі людзей, з якімі калісьці дзейнічаў, з якімі сядзеў у турме. Таму гэта яшчэ і свята сустрэч, успамінаў. Нялёгка было. Цяпер, праз туман часу, інакш гэта бачыцца.







Прафесар Алег Латышонак з 1981 года быў чальцом „Салідарнасці", а пасля ўвядзення ваеннага становішча дзейнічаў у падполлі, за што быў арыштаваны і асуджаны камуністычным рэжымам на зняволенне. Крыж Свабоды і Салідарнасці прысудзіў прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда.

racyja.com

# Цікавыя польска-беларускія кантакты на паўднёвым Падляшшы

Аказваецца, што яшчэ не ўсе ў нашай краіне звар'яцелі і не ўсе ў беларусах бачаць саміх ворагаў. Чым ніжэйшая палітычна-адміністрацыйная ступень, тым лягчэй знайсці нармальных людзей, для якіх усходні сусед не з'яўляецца сімвалам зла, толькі звычайным партнёрам. Прыклады такога стаўлення можна назіраць у нашых паўднёвых суседзяў — у Бяльскім павеце Люблінскага ваяводства. Гэтая добрая традыцыя вядзецца яшчэ з тых часоў, калі Бялая-Падляшская была цэнтрам асобнага ваяводства. Апошнім часам мы маглі наглядаць два прыклады такога добрасуседскага польска-беларускага супрацоўніцтва.

Месяц таму ў Ваяводскім спецыялістычным шпіталі ў Бялай-Падляшскай адбылася першая польска-беларуская „сустрэча ў вярхах" па здароўі. Быў гэта першы ў Польшчы форум абмену ведамі і вопытам у галіне аховы здароўя. Удзельнічалі ў ім медыцынскія работнікі, спецыялісты па ахове здароўя, ведамасныя фірмы, а таксама прадстаўнікі дзяржаўнай і лакальнай адміністрацыі абедзвюх краін.

Адной з тэм сустрэчы было параўнанне сацыяльных сістэм абедзвюх краін пад лозунгам „Слабыя і моцныя бакі аховы здароўя Польшчы і Беларусі". Абмяркоўвалася таксама развіццё кардыялагічнай дапамогі ў абедзвюх краінах. Вынікам сустрэчы было падпісанне дамовы аб супрацоўніцтве між гаспадарамі і абласной бальніцай у Брэсце. Яе мэта — развіццё далейшых кантактаў, абмен інфармацыяй аб навуковай дзейнасці і супольнае абучэнне медыцынскіх кадраў.

Зусім іншай галіны, бо пажарнай справы, тычыўся ўдзел у II Міжнародных маладзёжных спаборніцтвах пажарных каманд. Арганізатарам мерапрыемства было Брэсцкае абласное аб'яднанне «Дабравольныя пажарнікі» з яго старшынёю Аляксандрам Саўчуком на чале. З польскага боку ўдзел у спаборніцтвах прынялі чатыры каманды юных пажарнікаў: з Тучнай, Дралёва, Парчава і Быдгашчы. Вельмі добра паказалі сябе каманды паўднёвага Падляшша. Маладзёжная пажарная каманда з Тучнай заняла I месца ў катэгорыі хлопцаў, а дзяўчаты з Дралёва ў сваёй катэгорыі занялі IV месца.

Пасля спаборніцтваў Аляксандр Саўчук з Брэста сарганізаваў для польскіх удзельнікаў экскурсію па горадзе і Брэсцкай крэпасці. Быў гэта добры ўрок гісторыі не толькі Брэста, але і ўсяго прыбужскага рэгіёна.

Цікавымі мне паказаліся некаторыя прозвішчы польскіх удзельнікаў спаборніцтваў: Тарасюк, Касцючык, Дацюк, Стэшук, Барадзюк ці Марчук. Зразумела, побач іншых, тыпова польскіх. І хаця сёння прозвішча шторац радзей рашае аб нацыянальнасці, але аб паходжанні сям'і гаворыць нямала.

**Марк ЦЫБАРТ**

## Запрашэнне да спявання калядак

22 студзеня 2016 года ў Гмінным асяродку культуры (ГАК) у Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца Гмінны агляд „Калядуйма разам — Нараўка 2016". Пачатак мерапрыемства а гадзіне 10-й для моладзі і а гадзіне 15-й для дарослых.

Арганізатары — Гміная ўправа, ГАК і Комплекс школ у Нараўцы — ужо дзявяты год запар запрашаюць на сцэну калядоўшчыкаў: дзяцей, моладзь і старэйшых з гвяздамі. Усе яны ахвотна прыходзяць і прыязджаюць. Былі калядоўшчыкі з іншых гмін, між іншым, з Белавежскай, Гайнаўскай і Міхалоўскай.

Заявы на ўдзел прымаюць у нараўчанскім ГАК да 19 студзеня 2016 года. Можна патэлефанаваць на нумары: 85 685 80 34 або 85 685 80 45.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Беларускія калядкі і п'есы ў Шудзялаве

— Калі ў нас школьныя *яселка*, дзеці співаюць калядкі па-польску і па-беларуску, — кажа Багдан Альховік, дырэктар Комплексу школ у Шудзялаве. — Гэта ўжо традыцыя.

У пачатковай школе працуюць дзве беларускія групы, на якія запісалася трыццаць трое вучняў. Гэта амаль у два разы больш, чым у мінулым годзе. Што прыцягнула іх на ўрокі?

— Гульні, забавы, малюнкі, конкурсы і крыжаванкі — кажуць.

На ўроках рыхтуюць гумарыстычныя сцэнкі і пастаноўкі. Пра «Пеўніка-казачніка», пра «Хітруху», пра «Вадзіцельскія правы»... Самыя ўдалыя прадстаўленні пакажуць у час тэатральнага агляду. Таксама ўсе навучэнцы прымуць удзел у конкурсе «Роднае слова» і «Пазнай Беларусь». Іншы атракцыён — гэта рукадзелле. Тут вучацца плесці карункі на кручках, робяць з паперы кветкі і аздобы, займаюцца вышыванкамі.

Школа ў Шудзялаве ўзяла сабе за патронаў Герояў нацыянальных паўстанняў.

— А ці ёсць у гэтым пантэоне Кастусь Каліноўскі? — спыталі мы.

— Вядома, ёсць — кажа спадар дырэктар.

Увесь школьны комплекс (разам з прадшколлем) налічвае 205 вучняў. У Шудзялаве дзеці з трыццаці, часам надта адлеглых, вёсак. Аднак тут не здаюцца, школа вылучаецца на фоне ваяводства высокім узроўнем навучання. Найбольш амбітная моладзь прымае ўдзел у рэгіянальным гуртку «Нашае гняздо», які дзейнічае пры Гмінным асяродку культуры. Там знаёмяцца з мясцовай этнаграфіяй і гісторыяй.

**Зорка**


Настаўніца беларускай мовы Таццяна Андрацкая з вучнямі



## ЦІ ЁСЦЬ ПРАЎДА У СВЕЦЕ?
*(беларуская казка)*

Пайшоў адзін чалавек у лес па лучыну. Накапаў смалякоў і пачаў іх у мяшок складаць. Аж бачыць — бяжыць воўк.

— Ратуй мяне чалавеча! — просіцца воўк. — За мною стральцы гоняцца. Я табе за гэта добра заплачу — лісіцу на каўнер прыцягну.

— Як жа я цябе выратую? — пытае чалавек.

— Схавай мяне ў мяшок і нясі замест смалякоў.

Чалавек так і зрабіў. Узяў на плечы ваўка ў мяшку і пайшоў дарогаю.

Пад'ехалі стральцы, пытаюцца:

— Што нясеш, дзядзька?

— Смалякі на лучыну...

— А ваўка не бачыў?

— Не, не бачыў...

Стральцы і памчаліся сваёй дарогаю. Зняў тады чалавек мяшок з плячэй, развязаў.

— Ну, вылазь! — кажа ваўку.

— А стральцоў блізка няма?

— Няма.

Вылез воўк з мяшка і кажа да чалавека:

— А цяпер я цябе з'ем!

**(працяг будзе)**

## *Каліна*

*Развінуўся куст каліны,*
*Распусціўся квет.*
*І караляў для дзяўчыны*
*Узгадаваў букет.*
*У песні пра каханне роднай*
*Калінавы куст*
*І з малінай стане згодна,*
*Разам п'юць ваду,*
*Разам чырвань ягад спеляць*
*і вітаюць усход.*
*Ягады гадуе й песні*
*Славянскі народ.*
*Ай, каліна, ай маліна,*
*Явар малады.*
*Пацеркі нясе дзяўчына*
*З маленства ў гады.*

*Міра ЛУКША*

## УВАГА КОНКУРС! № 51-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 27 снежня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Гэтая літарка салодкая,**
**На ягадку падобная.**
**На суніцы і чарніцы,**
**на маліну і ажыны,**
**на брусніцы, буякі і журавіны.**
**У вас яшчэ не пацяклі слінкі?**
**(адгадайце якая гэта літарка)**

**Адказ на загадкі № 47-15: сава, зіма. Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Дам'ян Аврарчук, Крыстына Мішчук з Арэшкава, Габрыся Мікуліч, Ася Нікіцюк, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Міхал Савіцкі, Марыя Савіцкая і Вераніка Кардзюкевіч з Беластока. Віншуем!**

# У Гайнаўцы на Юдзянцы

**Кажуць, першае ўражанне надта важнае! У гайнаўскай ПШ № 3 прывітала нас каляровая афіша з беларускім лозунгам «Мая маленькая айчына». Невыпадкова. Гэты плакат прынёс школе вялікую радасць і гонар. Стэнд, у беларускім духу, перамог у экалагічным конкурсе. На ім бачым горад шчаслівых людзей, над якім лунае птушка-сімвал: бусел.**

**Тут у абдымках дубоў і бяроз, быццам пад ручку, стаяць касцёл і царква, ёсць зубры і матылькі, смяецца сонейка. На другім плане бачым вясковы краявід з хаткай і сажалкай, па якой плавае гусь. Плакат прыдумалі выхаванцы Марыі Крук, настаўніцы музыкі, мастацтва і заадно беларускай мовы.**

**— У нас больш чым палова дзяцей ходзіць на беларускую мову, — кажа дырэктар Галіна Пустэльнік. — Гэта вялікая праца настаўніцы, бо ад яе ўсё залежыць, ці заахвоціць яна дзяцей прыйсці на дадатковыя ўрокі.**

**У школе на першым месцы прадметны конкурс па беларускай мове. Як вядома, гэта выклік для інтэлектуалаў. На апошніх чакае шмат прыцягальных прапаноў. Самым знакавым праектам з'яўляецца тут вывучэнне народных абрадаў. Вучні ставяць прадстаўленні пра хрысціны, сваты, вяселле, ды імкнуцца паказаць іх у час гайнаўскіх «Мастацкіх сустрэч». Там адборная публіка і мора сяброў.**

**— Заўсёды прымаем удзел у «Родным слове» і «Беларускай песні» — дадае Марыя Крук, — Гэта ўжо традыцыя школы...**

**На жаль, у школе парвалася традыцыя падпіскі на «Ніву». Магчыма таму, вучні палічылі нас гасцямі з Рэспублікі Беларусь. Яны таксама не чулі пра літаратурны конкурс «Дэбют», у якім кожны год прымаюць удзел многія дзеці польскай нацыянальнасці. Шкада, каб здольныя навучэнцы беларускай мовы праваронілі такі шанс. Ды каму, як не ім, працягваць справу беларускай пісьменнасці?**

**У Пачатковай школе № 3 зараз 101 вучань. Праз вокны векавога, хоць задбанага будынка, відаць пушчу. Лясны настрой месца папаўняюць класныя здымкі аўтарства Марыюша Сыроды, на якіх зблізку паказаны казачны старажытны лес — наша Белавежская пушча.**

**Зорка**
**Фота Ганны Кандрацюк**

Настаўніца Марыя Крук

## Вершы Віктара Шведа

### Ніколі не позна

Тата падняў свой зрок
На насценны гадзіннік:
— Калі ты, мой сынок,
Споўніш сваю павіннасць?

— Пасля фільма будзе ўрок,—
Адказаў сын сур'ёзна.
— Пасля фільма новы дзянёк.
— Вучыцца ніколі не позна.

### Іграюць на нервах

На бацькоўскім сходзе
Пані падлікі праводзіць:
— Ваш Яраслаў з Яўгенам
Музыкальныя страшэнна.

— А на чым яны іграюць?—
Бацька вісусаў пытае:
— Граюць яны пастаянна
На нервах маіх зруйнаваных.

*Юлія ЧАБАН*
*Гімназія ў Міхалове*

### *Радзімы кут*

*Вельмі спакойна ў маім гарадку,*
*Кожны тут спачувае сябе*
*як у сне.*
*Прыгожыя вакол маем лясы,*
*Не трэба тут многа касы.*
*Сярод людзей радасць*
*кружыць,*
*Без клопату – кожны ўсё*
*паспявае зрабіць.*
*Тут жыхары станунь на галаве,*
*Каб шчасце даць Табе.*
*Бяжы да нас стрымгалоў,*
*Бяры з сабою сяброў!*

*Лукаш АНХІМ*
*ПШ у Міхалове*

### *Жыццё*

*Жыццё бывае добрае,*
*Часам бывае мудрае.*
*Ведаю, што маю недахопы,*
*Але працую і знаю,*
*Што маю трохі работы.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 51-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47:**

Ляснік, пік, мох, мост, цаца, верталёт, гурток, цырк, аса, мяў. Ліс, вус, як, мера, порт, на, стол, так, кіт, цёця, матыў, моц, кухарка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк, Марлена Лабаноўская, Аляксандра Кулік** з Бельска-Падляшскага, **Эліза Крапіўніцкая, Адрыян Данілюк** з Міхалова, **Матэвуш Казлоўскі, Дам'ян Іванюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Сара Скаўронская, Наталля Паўлоўская, Анна Савіцкая і Андрэй Бонда** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nasz / Prąd | | | | Kaktus | | | | | |
| | | | Warszawa / Uszko | | Potop | Twarz / Szanse | | Pszczoła / Aromat | |
| | Tur / Żuk | Ar / Gatunek literacki | | | | | | | |
| | Kot | | | | Orzeł / Ara | | | | |
| Kasztan / Konkurs | | | | | | | Do | | |
| | | | | | | | | | |
| Trasa | | | | | | Trzy | | | |

№ 51 [20-12-2015]

Гістарычны агляд

# Па старонках „Новай дарогі”

Упершыяд акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі з дазволу германскіх улад у Беластоку 29 сакавіка 1942 года на беларускай мове пачала выдавацца газета „Новая дарога”, якая па сутнасці з'яўлялася органам Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Праўда, гэта была не першая пасля прыходу нямецкіх войск газета ў Беластоку. Да „Новай дарогі” выйшлі з друку два нумары газеты „Беластоцкі голас”, якія рэдагавалі Хведар Ільяшэвіч і Алесь Кандыба.

Сёння знайсці гэтыя два нумары „Беластоцкага голасу” цяжка. А вось „Новая дарога”, хаця і не ўсе нумары, захоўваецца ў абласных архівах Беларусі і ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Давайце пагартаем „Новую дарогу” і паглядзім пра што яна паведамляла больш за 70 гадоў таму.

У 1942-1944 гадах, як пісаў гісторык Юры Туронак, „рухавіком інтэлектуальнага жыцця ў Беластоку быў у той час вядомы паэт і гісторык, вілянчук Хведар Ільяшэвіч — старшыня Беларускага аб'яднання і рэдактар „Новай дарогі” (Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Вільня 2006, с. 344). Сапраўды, Хведар Ільяшэвіч (1910-1948), жывучы ў Беластоку, працаваў і пісаў шмат. Дзіву даюся, дзе ён толькі знаходзіў час і сілы — рэдагаваць газету, пісаць вершы і вялікія артыкулы, інфармацыі пад рознымі псеўданімамі, наладжваць беларускія справы, арганізоўваць сустрэчы з беларусамі, мерапрыемствы, вырашаць школьныя праблемы. Ды яшчэ рабіць усё пад наглядам германскай улады, быць асцярожным і разважлівым, бо за ім пільна сачылі не толькі немцы, але і энкавэдысты. „Ільяшэвіч быў добрым, інтэлігентным, але не валявым чалавекам, — успамінаў Масей Сяднёў. — На працу ён стараўся прыходзіць у час і рэгулярна, хоць гэта рэгулярнасць часамі парушалася, і тады пачыналася нараканне на старшыню, на непарадкі. Ішлі да ягонага заступніка, Тамашчыка. Але той не заўсёды хацеў пастанаўляць, і справа кульгала. Зрэшты, ніякая ўстанова не можа пахваліцца поўнай зладжанасцю. Ільяшэвіч быў абцяжаны шматлікімі абавязкамі — газетай, гаспадарчымі справамі, раздутым камітэцкім персаналам, рознымі просьбамі, сямейнымі справамі. У яго не было вольнага часу, і ён усё рабіў паспешліва. Наўзверх яму трэба было пісаць штотыднёва Stimmungbericht (апісанне настрою сярод насельніцтва ў дачыненні да немцаў) — як ён тады лаяўся! Ішоў па дапамогу да Тамашчыка: страшэнна не любіў таго „бэрыхта”, але мусіў яго рабіць” (М. Сяднёў, *Масеева кніга*, Мінск 1994, с. 284).

30 траўня 1943 года „Новая дарога” надрукавала вялікі артыкул пра дзейнасць Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Пад артыкулам не стаіць прозвішча аўтара, але яго пісаў, відаць, сам рэдактар Хведар Ільяшэвіч. У ім распавядаецца пра дзейнасць аб'яднання, якое раней называлася Беларускі нацыянальны камітэт. Камітэт з'яўляўся беларускай арганізацыяй, якая вяла і арганізоўвала культурна-нацыянальную і палітычна-ўсведамляльную працу сярод беларусаў Беласточчыны. Аб'яднанне гуртавала ўсе жывыя беларускія сілы на шлях нацыянальнай працы і актыўнага ўдзелу ў змаганні за новы парадак. Так пісалася ў тым артыкуле.

Беларускае аб'яднанне ў Беластоку развярнула шырокую дзейнасць. Найперш была праведзена рэгістрацыя беларусаў у Беластоку і ў многіх мясцовасцях на правінцыі. Газета пісала: „Цікава адзначыць, што ў Беластоку, у якім паводле статыстычных дадзеных пана беластоцкага ваяводы 1936 года не было ніводнага беларуса, аказалася аж 17 тысяч беларускага жыхарства”.

Дзякуючы аб'яднанню, была наладжана праца друкарні, гарадскога тэатра, адкрыліся крамы, з'явіліся хор і аркестр, беларускі балет і г.д.

Восенню 1942 года перасялілі з Белавежскай пушчы да 8 тысяч беларусаў. Адбываліся сходы, сустрэчы, канцэрты. Як пісала „Новая дарога”, 30 траўня 1943 года, за 26 дзён хор і балет наведалі 26 пунктаў і далі звыш 80 канцэртаў на Беласточчыне.



NEUER WEG

НОВАЯ ДАРОГА

№ 35. Беласток, 19 верасьня 1943 Год выданьня II.



■ У Беластоку (справа налева) Аляксей Грыцук (другі), Масей Сяднёў (чацвёрты), Хведар Ільяшэвіч (пяты), Уладзімір Тамашчык (восьмы), астатнія невядомыя, 1943 г. Фота з архіва аўтара.



■ Хведар Ільяшэвіч (сядзіць у цэнтры) з сябрамі ў Ватэнштэце, 1948 г.

■ Валянцін Таўлай, Сяргей Хмара, Тодар Лебяда, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Уладзімір Сядура, Хведар Ільяшэвіч, Аляксей Анішчык-Чэмер, Мінск, 27 чэрвеня 1944 года.

Вельмі шмат пісала газета пра беларускага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага (1900-1981). Яна адсочвала кожнае выступленне і сустрэчы спевака, публікавала расклад яго гастроляў на Бацькаўшчыне. Напрыклад, у 1943 годзе Міхась Забэйда-Суміцкі з канцэртамі выступаў: 4 траўня — у Гародні і Ваўкавыску, 11 траўня — у Гайнаўцы, 12 чэрвеня — у Белавежы, 16 чэрвеня — у Пружанах, 17 чэрвеня — у Бельску, 18 чэрвеня — у Беластоку. У Беластоку спявак выступаў разам з хорам Беларускага аб'яднання. Пасля выступлення ў Ваўкавыску Хведар Ільяшэвіч пад псеўданімам М. Дальны апублікаваў у „Новай дарозе” пра яго вялікі артыкул „На ўлонні Бацькаўшчыны”. Ёсць у ім і такія радкі: „Гэта было спатканне, якое ён (маецца на ўвазе Міхась Забэйда-Суміцкі — С. Ч.) доўга, доўга чакаў. З роднай яго вёскі Шыйнякі (альбо гэта паліграфічная памылка, альбо перабльтаў аўтар, бо родная вёска спевака — гэта вёска Шэйпічы цяперашняга Пружанскага раёна — С. Ч.), дзе ён радзіўся, рос, прыехала яго старэнькая маці. Сялянскай фурманкай яна ехала да сына, па якім тужыла і выглядала. Яна яшчэ моцная і здаровая, і, нягледзячы на далёкую дарогу, бадзёра вядзе гутарку. Ёй ужо 68 гадоў, але яна яшчэ будзе доўга жыць, бо бацькі яе жылі доўга. Міхась Забэйда-Суміцкі пяяў сваёй маці, з якой прыехала і шмат землякоў”.

Наогул, „Новая дарога” шмат увагі аддавала літаратуры, культуры, гісторыі. Хаця на першых старонках заўсёды друкаваліся ваенныя зводкі, артыкулы на міжнародныя тэмы, агляды сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на Беларусі, звароты, матэрыялы антысеміцкага, антырускага і антыпольскага характару. Друкавала газета і розныя абвесткі, хроніку культурнага жыцця і сельскагаспадарчыя парады. Пад рубрыкай „З беларускага жыцця” змяшчаліся розныя звесткі з Беластока, Слоніма, Бабруйска, Ваўкавыска, Магілёва, Баранавічаў, Ганцавічаў і іншых гарадоў.

30 траўня 1943 года „Новая дарога” апублікавала інфармацыю пра тое, што кіраўнік беларускага хору пры Беларускім аб'яднанні ў Беластоку „Д. Арлоў пачаў музычную апрацоўку цэлага раду вершаў Ларысы Геніюш”. Паэтка часта выступала з вершамі на старонках газеты. Друкаваўся і верш, прысвечаны Х. І-ЧУ (Хведару Ільяшэвічу). Ён пачынаўся радкамі:

*Доўга, доўга ў начы непраспанай,*
*Пакуль выйшла з-за хмараў зара,*
*Твой прыгожы букет туліпанаў*
*На руках у мяне дагараў...*

Гэта Ларыса Геніюш з Прагі першая паведаміла, што не стала прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Васіля Захаркі. Яе зацемка пра смерць Захаркі была апублікавана 1 красавіка 1943 года. А потым сябры напісалі і надрукавалі некралог пра яго.

Пісала „Новая дарога” і пра літаратурную дзейнасць другой вялікай паэткі Наталлі Арсенневай. 15 жніўня 1943 года газета паведамляла пра літаратурны вечар Наталлі Арсенневай у Слоніме, дзе яна з Беларускім тэатрам з Мінска выступала 18 ліпеня 1943 года.

Наогул, беларускіх паэтаў газета ў Беластоку не крыўдзіла. У кожным нумары друкаваліся іх творы. Выходзіла, хоць і не часта, паэтычная старонка „На літаратурнай антэне”, дзе друкаваліся вершы Хведара Ільяшэвіча, Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва, Міхася Васілька, напісаныя да вайны, Уладзіміра Клішэвіча, Тодара Лебяды, Янкі Богдана, Міхася Пушчанскага і іншых паэтаў. Пра Янку Богдана прыгадвае Масей Сяднёў: „Меў я ў камітэце і нейкую дружбу — прыйшоўся мне па душы маладаы таленавіты паэт Янка Богдан. Ён увесь час тырчаў у бухгалтэрыі — там працавала ягоная прыгожая Ірка. Было люба глядзець на іхнюю замілаванасць, на іхняе, як у добрыя часы, рамантычнае каханне” (М. Сяднёў, *Масеева кніга*, Мінск 1994, с. 287).

На старонках газеты адшукаў я некалькі лірычных вершаў і Тодара Лебяды (1914-1970), раней невядомых. Некаторыя з іх былі напісаны ў Дзвінску. Надрукавала „Новая дарога” і баёвую песню беларускай моладзі „Зважай” Тодара Лебяды:

*Гартуйма калоны, арлы маладыя,*
*Шугайма далёка ў дазор!*
*Нас моладасць наша на крыллях уздыме*
*Да шчасця, да сонца, да зор.*
*Прыпеў:*
*Шчыльней рады, мацней рады!*
*Зважай!*
*Дарогу моцным, маладым!*
*Мы пройдзем па крыжах.*
*Мы — моладзь, мы зроджаны*
*ў буры, пажары,*
*Нам ясны дарогі-пуці.*
*І тое, што ўчора здавалася марай —*
*Мы творым сягоння ў жыцці.*
*Прыпеў.*
*Няхай нас не страшаць чырвоныя каты,*
*Бо мы на крывавы тэрор*
*Пастанем сцяною хлапцы і дзяўчаты,*
*Каб даць ім належны адпор.*
*Прыпеў.*

У кастрычніку 1943 года Хведар Ільяшэвіч уладкаваў на працу карэктарам у „Новую дарогу” паэта з Магілёўшчыны Масея Сяднёва (1913-2001). 31 кастрычніка 1943 года газета публікуе два вершы Сяднёва „Да песень” і „Сталін на трыбуне”, якія ім былі напісаны ў мінскай турме ў 1937 годзе. Давайце прачытаем верш „Сталін на трыбуне”:

*Народ крычыць: Ура! Ура! —*
*Задавальненне ў гомане народным.*
*Вялікага правадыра*
*Народ гукае „бацькам родным!”.*

*Ён у вачох — нібы кумір,*
*Ад дворніка і да паэта.*
*На ўсё з трыбуны „правадыр”*
*Глядзіць, як уладар сусвета.*
*Глядзіць, як збаўца ўсіх нягод,*
*І думае, што пакарыў фартуну.*
*Таго ж не знае, што народ*
*Скрышыў бы ўшчэнт яго, трыбуну!*

У гэтым нумары быў апублікаваны і артыкул пра Масея Сяднёва „Пад сонцам сталінскай канстытуцыі. Спатканне з беларускім паэтам Масеем Сяднёвым”. Хто яго пісаў — невядома. Магчыма — Хведар Ільяшэвіч. Заканчваўся гэты артыкул словамі: „Масей Сяднёў — гэта жывы дакумент бальшавіцкага здзеку і гвалту над беларускім народам”. Побач з артыкулам пра паэта, апублікаваны і пачатак серыі артыкулаў пра лёсы беларускіх паэтаў „Ахвяры бальшавізму” Масея Сяднёва. Дарэчы, з гэтага часу паэт з Магілёўшчыны пастаянна друкуецца на старонках „Новай дарогі”, друкуе і свае ранейшыя, і новыя вершы.

Вялікую папулярнасць набыла „Новая дарога”, калі на яе старонках з'явіліся сатырычныя творы Шэршня. Але хто хаваўся пад псеўданімам Шэршань — калектыў рэдакцыі не ведаў. Нават Масей Сяднёў думаў, што гэта быў Міхась Васілёк, вершы якога сяды-тады траплялі на старонкі газеты. А неяк аднойчы ён нават наведаў Беласток і сустракаўся з Хведарам Ільяшэвічам, які яго хацеў далучыць да працы ў газеце. Але Васілёк адмовіўся, хаця шчыра вітаў беларускі рух на Беласточчыне.

Сёння мы ўжо ведаем, што пад псеўданімам Шэршань хаваўся ні хто іншы, як Рамуальд Зямкевіч (1881-1944) з Варшавы. „Шэршань ускалыхнуў чытача, ажывіў газету. Праз сатыру Шэршня газета набыла, я сказаў бы, папулярнасць”, — прыгадваў Масей Сяднёў у сваім „Беластоцкім сшытку”. Шэршань на старонках „Новай газеты” пісаў не толькі сатырычныя творы, але друкаваў і беларускія народныя казкі, якія збіраў і апрацоўваў.

Актыўным супрацоўнікам „Новай дарогі” быў і Кастусь Езавітаў (1893-1946) з Рыгі. Дзякуючы яму, спецыяльна для газеты былі напісаны і апублікаваны вялікія артыкулы пра Францішка Аляхновіча, Вацлава Ластоўскага, Францішка Багушэвіча, пра паэму „Тарас на Парнасе”, пра 25-я ўгодкі Усебеларускага кангрэса і дзясяткі іншых матэрыялаў. У Беластоку планавалася адкрыць этнаграфічны музей. Таму Кастусь Езавітаў праз „Новую дарогу” прапагандаваў гэтую ідэю, пісаў пра збор прадметаў народнага мастацтва, а ў артыкуле „Скарбы ў руках беларускіх жанчын” (22 жніўня 1943 года) пісаў пра тое, што ў Беластоку будзе праводзіцца даследаванне фальклору.

У кастрычніку 1943 года „Новая дарога” павіншавала Кастуся Езавітава з 50-годдзем з дня нараджэння і даслала яму „найшчырыя пажаданні плоднай працы”.

Пасля гэтага юбілею, генерал, педагог, літаратар і гісторык Езавітаў пражыве яшчэ тры гады. Яго арыштоўць супрацоўнікі СМЕРШа ў красавіку 1945 года і прывязуць у Мінск. Паводле афіцыйнай версіі, ён памёр ад сухотаў і дыстрафіі 23 траўня 1946 года. А паводле іншых звестак — Кастуся Езавітава расстралялі.

Вельмі любілі беларусы чытаць на старонках „Новай дарогі” матэрыялы Юры (Георгія) Пеха (1897-1969), якія былі прысвечаны гарадам і мястэчкам Беласточчыны, старым беларускім манетам і старадаўнім курганам. Пра манеты Пех пісаў, што яны, як і „знакі не з'яўляюцца літоўскага паходжання, а былі запазычаны ў крывічоў, абшар засялення якіх у створаным Вялікім княстве Літоўскім-Беларускім складаў дзве трэці ўсяе дзяржавы”.

Шмат увагі ўдзялялася на старонках „Новай дарогі” беларускаму школьніцтву. Шырока асвятляліся, напрыклад, розныя настаўніцкія семінары, курсы, сустрэчы. 19 верасня 1943 года газета на першай старонцы паведамляла пра тое, што ў Беластоку праходзяць настаўніцкія курсы, на якія прыехалі 120 беларускіх педагогаў. На курсах, апрача беларускай і нямецкай моў, беларускай літаратуры і гісторыі, апрацоўваліся таксама методыка і праграмы навучання. Але не ўсе беларускія дзеткі маглі вучыцца падчас вайны, многія галадалі, хварэлі, былі сіротамі і не мелі жылля. Пра гэта таксама паведамляла газета.

Шырока асвятляліся на старонках беластоцкага выдання і рэлігійнае жыццё, і гісторыя беларускіх храмаў, і лёсы беларускіх святароў. 20 чэрвеня 1943 года нехта Б. Сыраб надрукаваў каштоўны матэрыял пад загалоўкам „Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр”, у якім распавёў пра гісторыю гэтага манастыра і лёсы яго каштоўнасцей. Аўтар пра скарбы, якія там знаходзіліся, пісаў: „Многія скарбы манастыра, якія зніклі і былі вывезены ў сярэдзіне XIX стагоддзя, узбагачаюць чужыя бібліятэкі. І так 118 лістоў „Супрасльскага рукапісу” упрыгожваюць Копітара ў Любляне, 16 лістоў знаходзяцца ў Петраградскай публічнай бібліятэцы, а 151 аркуш — у бібліятэцы Замойскіх у Варшаве. Толькі частка „Супрасльскага Евангелля” (больш 10 лістоў) адкрытая і вывучаная Іванам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, знаходзілася ў пачатку трэцяга дзесяцігоддзя нашага веку ў Вільні, становячы прыватную ўласнасць аматара старасвеччыны, гр. Заштаўта”.

Пісала газета і пра беларускую мову ў праваслаўных цэрквах Беласточчыны. Вельмі добра вёў богаслужэнне і чытаў пропаведзі на беларускай мове а. Сцяпан у царкве Марыі-Магдалены.


Баёвая песьня беларускай моладзі

ЗВАЖАЙ

Гуртуйма калёны, рады маладыя,
Шугайма далёка ў дазор!
Нас моладасьць несьць на крыльлях уздымных
Да шчасьця, да сонца, да зор.

Шчыльней рады, мацней рады!
Зважай!
Дарогу моцным, маладым!
Мы пройдзем па крыжах.

Мы — моладзь, мы зроджаны ў буры, пажары.
Нам ясны дарогі — пуці!
І тое, што ўчора здавалося марай,—
Мы творым сягоньня ў жыцьці.

Шчыльней рады, мацней рады!
Зважай!
Дарогу моцным, маладым!
Мы пройдзем па крыжах.

Няхай нас не страшаць чырвоныя каты,
Бо мы на крывавы тэрор
Паўстанем сьцяною хлапцы і дзяўчаты,
Каб даць ім належны адпор.

Шчыльней рады, мацней рады!
Зважай!
Дарогу моцным, маладым!
Мы пройдзем па крыжах.

ТОДАР ЛЕБЯДА.

■ **Верш Тодара Лебяды са старонкі газеты**



■ **Юры (Георгій) Пех – адзін з аўтараў „Новай дарогі” з Ваўкавыска. Фота друкуецца ўпершыню.**



■ **Юрка Віцьбіч, Ларыса Геніюш, Кастусь Езавітаў, Наталля Арсеннева, Аляксей Анішчык-Чэмер (злева направа), Мінск, 1944 г.**

■ **Сядзяць (злева направа) Уладыслаў Казлоўскі, Наталля Арсеннева, Аляксей Сянкевіч, стаяць (злева направа) Уладзімір Кушаль, Антон Адамовіч, Мікола Караленка, Мінск, 1942 г.**

Часам са сваімі роздумамі і заклікамі на старонках „Новай дарогі” выступаў святар Анатоль Кунцэвіч (1912-?), які быў родам з Ялоўкі. Ён заклікаў праваслаўных святароў Беласточчыны гарнуцца да беларускага народа і „гаварыць да яго ў сваёй роднай беларускай мове. Тады нас паслухае сын Крывіцкай зямлі і скажа, што гэта ёсць праўдзівы святар, які годна выконвае свой вялікі абавязак перад беларускім народам”.

Цікавілася газета і рознымі беларускамоўнымі выданнямі: новымі кнігамі, часопісамі, календарамі, паштоўкамі, якія выходзілі падчас вайны на Беларусі і па-за яе межамі. Беларускі камітэт самапомачы ў Берліне ў 1943 годзе выпусціў серыю беларускіх паштовак. Пра гэта з радасцю паведаміла „Новая дарога”. У серыю ўваходзіла 15 паштовак: Новы замак над Нёманам, краявід у Навагрудчыне (курган у кветках і поле), краявід з Навагрудчыны (палянка сярод гаёчкаў), Вілля ў Каралінках пад Вільняй (падмывае стромкія Каралінаўскія лясныя ўзгор'і), яр у Цімашкавічах (надзвычайна прыгожыя і характэрныя выветрыванні пародаў), гасцінец каля Біняконяў (стары шлях, абсаджаны вялікімі старымі дрэвамі), дарога ў Вілянах пад Вільняй (абсаджаная бярэзінамі), замкавы канал у Нясвіжы, Бярэзіна пад Віллёй у Крыжанах (надзвычай прыгожае спалучэнне бярэзіны з далёкай перспектывай), Зялёнае возера пад Віленскімі ўзгор'ямі, двор у Наве ля Баранавіч (характэрнае „Дваранскае гняздо” на Беларусі), Беразвіч — возера Глыбокае, возера Дрысвяты каля Браслава, царква ў Глыбокім на беразе возера, бераг Вілейкі пад Вільняй. Усе гэтыя краявіды ўдала сфатаграфаваў вядомы на той час у Вільні фатограф-мастак Ян Булгак. А першакласныя рэпрадукцыі з іх былі зроблены фірмай мастацкіх паліграфічных ціскаў Вацлава Нэўбэрта ў Празе. Усе гэтыя паштоўкі тады маглі жадаючыя выпісаць ці набыць у Беларускім аб'яднанні ў Беластоку.

„Новая дарога” за гады свайго існавання неаднаразова пісала пра Міндоўга і Льва Сапегу, Каруся Каганца і протаіерэя Мікалая Галенду, Юльяна Саковіча і Юльяна Сяргіевіча, Уладзіміра Жылку і Язэпа Пушчу, Тодара Кляшторнага і Аляксандра Цвікевіча, Міхася Зарэцкага і Сымона Баранавых і многіх іншых вялікіх людзей нашай Бацькаўшчыны.

Вельмі часта на старонках беластоцкай газеты публікаваліся некралогі. Ішла вайна і гінула шмат вядомых беларусаў. Асабліва калектыў рэдакцыі быў устрывожаны і ўсхваляваны, калі прыйшла вестка з Мінска, што забілі рэдактара „Беларускай газеты” Уладыслава Казлоўскага. Газета апублікавала некралог: «Дня, 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананні сваіх нацыянальных абавязкаў, трагічна загінуў ад рукі нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар „Беларускай Газэты” Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залессе Сакольскага павету. Пахованы адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя „Новай дарогі” выказвае сваё глыбокае спачуццё асірочанай сям'і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя „Новай дарогі”».

Побач з некралогам быў апублікаваны вялікі артыкул „Не запалохаюць”. Яго пісаў альбо Хведар Ільяшэвіч, альбо Уладзімір Тамашчык (1900-1970), які працаваў намеснікам рэдактара газеты. Прыцягнулі ўвагу ў гэтым матэрыяле вельмі цікавыя факты: „Мы перажылі многа фактаў, што сведчаць аб гэтай нянавісці да нас з боку маскоўскіх бандытаў. Мэтай іх ёсць знішчэнне не толькі нашага нацыянальнага актыву, але беларускага народу наогул. Памінаючы ўжо індывідуальныя забойствы найлепшых сыноў нашага народу, прыгадаем сабе хоць бы нядаўнія акты тэрору скіраваныя супраць беларускага народу. Калі 2.5.1943 г. маскоўскія паветраныя бандыты закідалі бомбамі Менск, дык гэта быў акт помсты супраць беларускага народу. Бандыты добра ведалі, куды й на каго кідалі свае бомбы. Калі гэтыя адкіды чалавецтва 22.6.1943 г. узарвалі наш Менскі тэатр, дык гэта быў таксама акт помсты супраць усяго народу, супраць яго культуры, бо яны не маглі бачыць ейнага буйнага развіцця. Калі ў першым дню заняцця Смаленску крываве НКВД павесіла на слупах у горадзе 180 жанчын і застрэліла сотні мужчын (а гэта ж былі тыя нямногія, што хацелі застацца на месцы), дык гэта акт таго самага значэння. Множыць гэтыя прыклады няма патрэбы. Мы іх бачым кожны дзень (...)”.

Гартаючы старыя падшыўкі „Новай дарогі”, на яе старонках можна знайсці яшчэ сотні цікавых і невядомых раней матэрыялаў і фактаў. Але многія гэтыя факты, вядома ж, трэба правяраць і ўдакладняць. Усяго выйшла з друку больш за 100 яе нумароў.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Здаровыя карані Гарадоччыны

— Мэта конкурсу — паказаць дзецям іх карані, прывіць любоў да беларускай мовы і традыцыі, — кажа Янка Карповіч з Гарадка. — Чалавек без традыцыі, як дрэва без каранёў, пазбаўлены душы і розуму. Ён становіцца неафітам, траціць усё і звычайна кепска канчае. Дзевяць гадоў арганізую конкурс, але сустракацца з літаратарамі пачалі мы тут нашмат раней. Былі слоўна-музычныя мантажы, невялікія тэатральныя выступленні, нават кніжку „Жыццём пісана" выдалі. Няма ўжо сярод нас Косціка Казлоўскага, Ніны Цыванюк, Надзі Дудзік. Засталіся толькі Анатоль Парэмбскі, Янка Федзюкевіч і Янка Грыцук. Шмат памянялася, але добра, што моладзь пачынае пісаць. Гэта будучыня нашага пісьменства.

Спадар Янка арганізацыю літаратурнага конкурсу „Пісаць можа кожны" за Кубак Войта Гарадоцкай гміны перадаў свайму сыну Рыгору, выпускніку беларускай філалогіі і працаўніку Гарадоцкага цэнтра культуры.

Конкурсныя працы былі на польскай і беларускай мовах, у тым ліку на дыялектнай.

Старшыня конкурснай камісіі Ірэна Матысюк — штодзень настаўніца польскай мовы ў Гарадку — запрапанавала ў будучыні стварыць асобныя катэгорыі для твораў польска- і беларускамоўных, а яшчэ аддзяліць прозу ад паэзіі. Пакуль ацэньвалі паводле дзвюх катэгорый: дзяцей і дарослых. Асабліва гэтых першых удзельнічала сапраўды шмат.

— Гэта, перш за ўсё заслуга настаўнікаў, — гаворыць спадарыня Ірэна. — Шмат вершаў атрымалі мы са школы ў Залуках. Мне здавалася, што кожны тамтэйшы вучань нешта нам напісаў, у большасці па-беларуску. Асабіста я захапілася вершамі лаўрэаткі другога месца, гарадоцкай школьніцы Мартыны Мытых, беручы пад увагу яе адметную фантазію і метафарычнасць. Вельмі шкадую, што не змаглі мы ўзнагародзіць адоранай не меншым пісьменніцкім талентам і фантазіяй Лены Сульжык. Прадбачваю, што Лена вырасце на незвычайную паэтэсу. Яна цудоўна піша пра сябе і сваё жыццё. На конкурс дасылалі свае вершы перш за ўсё тыя, якія пішуць іх штодзень. Гэта сапраўды самастойныя працы.

Наш тыднёвік асабіста павіншаваў лаўрэатку трэцяга месца ў катэгорыі дарослых Патрыцыю Карлаў з Гарадка, вучаніцу другога класа II ліцэя ў Беластоку.

— Доўга займаешся паэзіяй?



— Недзе ад чатырох гадоў.

— Пра што пішаш у сваіх вершах?

— Пра свет, які яго бачу, пра насычаную эмоцыямі глыбіню.

— Ствараеш свой уласны свет?

— Не зусім, папросту паказваю другое дно гэтага, што нас акружае. Стараемся быць добрымі і вясёлымі, а папраўдзе ў нас шмат абавязкаў, прыгнёту, што асабліва бачна восенню. Усё гэта памячаю і запісваю ў сваіх вершах. Песімізм не ёсць зусім кепскі, калі ім добра пакарыстацца, вядома, у нейкіх межах.

— На конкурс Ты падрыхтавала верш па-беларуску.

— Так. Гэта для мяне цалкам натуральнае, хаця мова верша не зусім літаратурная. Я напісала так, як гавораць у мяне ў хаце, у Пяшчаніках. Тут напісала я пра гарбату, пра горкую гарбату, якая ў адрозненні ад салодкай у змозе нас зматываваць да нечага канкрэтнага. Веру, што без горычы няма будучыні.

Такі погляд не да канца падзяляе дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юры Астапчук. Ён заўважыў, што добра было б чарговы выпуск конкурсу сарганізаваць вясной, якая, мабыць, паспрыяе больш аптымістычнай творчасці.

На конкурс надышло 28 заявак. У катэгорыі моладзі першае месца заняла проза Соні Ніны Сульжык, на другім месцы апынулася Мартына Мытых, на трэцім — Эмілія Каранкевіч. Сярод дарослых першае месца заняла Крыстына Кандрусік, другое — Патрыцыя Карлаў, трэцяе — Ян Грыцук.

На вечарыне са сваімі вершамі гасцінна выступіў Станіслаў Дамброўскі з Сафіпаля, лаўрэат шматлікіх літаратурных конкурсаў, член Настаўніцкага літаратурнага клуба. На гітары зайграў і заспяваў Янка Карповіч. У ролі гаспадыні мерапрыемства выступіла працаўніца Гміннага цэнтра культуры у Гарадку і рэдактарка „Гарадоцкіх навін" Дарота Сульжык.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Напрыканцы 1990-х — пачатку 2000-х гадоў былі даволі распаўсюджанымі расповеды аб тым, што з цягам часу на свеце ўсталююцца адны законы, адны парадкі і ўсе людзі будуць размаўляць на адной мове — англійскай. Добры быў такі прагноз ці дрэнны залежыла ад таго, хто заводзіў размову пра глабалізацыю. Цяпер, праўда, пра суцэльную ўніфікацыю людзей і народаў расповедаў паменела. Пэўна з-за таго, што як бы хто не хацеў, але людзі, нягледзячы на іх вонкавае падабенства і агульныя асноўныя інтарэсы, усё ж такі адрозніваліся і будуць адрознівацца — і чалавек ад чалавека, і народ ад народа. А пацвярджэннем такой высновы з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе http://tsila.ru і мае назву „Точная сила".

Калі звычайны карыстальнік зазірне на гэты сайт, то, магчыма, нічога цікавага для сябе ён не заўважыць, калі: а) яго не цікавіць прабіўны інструмент і інструмент для рубкі і б) калі ён не ведае хаця б у агульных рысах асаблівасці беларускай палітыкі. Паколькі прафесіяналы, якія карыстаюцца вышэйазначанымі інструментамі, і без данага артыкула знойдуць сабе патрэбныя рэчы, то рабіць залішнюю рэкламу прамысловай кампаніі, расхвальваючы яе тавар, сэнсу няма. Затое ёсць сэнс звярнуць увагу на тое, што сайт „Точной силы" не толькі мае ажно тры моўныя версіі, але і беларуская пазначана там нацыянальным бел-чырвона-белым сцяжком.

„Група кампаній «Точная сила» — вытворца пуансонаў і матрыцаў, а таксама прамысловых нажоў для рубкі металу для камбінаваных нажніц, прабіўных прэсаў, гільяцінных ліставых нажніц, аўтаматычных ліній для прабіўкі і рубкі ліставога металу і профільнага пракату, нажоў для рубкі арматуры і металалому. Група кампаній «Точная сила» — пастаўшчык комплексных рашэнняў для аўтаматызацыі заводаў металаканструкцый, буйнейшы ў ЕАЭС (Расіі, Казахстане і Беларусі) пастаўшчык гідраўлічных камбінаваных прэс-нажніц", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, дзе прэзентуецца як тавар, так і ўласна кампанія.

Як бачым, «Точная сила» пазіцыянуе сябе як кампанія, якая распаўсюджвае сваю дзейнасць на тры постсавецкія краіны, якія не так даўно стварылі так званы Еўразійскі эканамічны саюз (ЕАЭС). Пры гэтым аб'яднаныя вытворцы і камерсанты не надта адсочваюць усе акалічнасці гэтага ўтварэння — так яны забыліся, што ў яго ўваходзяць яшчэ Арменія і Кіргізія. А іх рэкламнае сцвярджэнне „Мы — буйнейшы пастаўшчык у ЕўрАзЭС" выклікае ўсмешку, бо адлюстроўвае недасведчанасць пра тое, што ЕўрАзЭС (Еўразійская эканамічная супольнасць) ужо амаль год як не існуе ў сувязі менавіта са з'яўленнем ЕАЭС.

Вядома, што ўсе міждзяржаўныя постсавецкія аб'яднанні, куды ўваходзіць Расія, створаны з большага дзеля яе інтарэсаў. Таму роўнасці моў там, натуральна, няма, бо ўсе і без таго разумеюць па-руску. У такіх варунках няма і асаблівага сэнсу выкарыстоўваць на сайце прамысловай кампаніі і беларускую, і казахскую. Але «Точная сила» зрабіла па-іншаму, чым не толькі праявіла павагу да даных моў, але і стала заўважнай з лепшага боку. А да таго ж пацвердзіла, што валоданне і падтрымка супрацоўнікамі кампаніі моў тых народаў, сярод якіх працуюць — гэта не перашкода для бізнесу, а праява прадпрымальніцкай кемлівасці і дальнабачнасці.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

### Беларус — першы прэзідэнт Гаваяў



## 165 гадоў з дня нараджэння Мікалая Судзілоўскага

Вучоны, лекар, удзельнік народніцкага руху, першы прэзідэнт Гавайскіх выспаў Мікалай Судзілоўскі нарадзіўся 15 снежня 1850 г. у Магілёве. Паходзіў ён са шляхецкай беларускай сям'і, якая валодала маёнткам Фаства на Мсціслаўшчыне. У сям'і было 8 дзяцей, Мікалай — самы старэйшы. Судзілоўскі скончыў Магілёўскую гімназію, вучыўся на медычным факультэце Кіеўскага ўніверсітэта, там стварыў народніцкі гурток, пасля выехаў у Швейцарыю, дзе пазнаёміўся з лідарамі анархізму Лаўровым, Бакуніным. Захоплены народніцкай ідэяй, вярнуўшыся, прапагандаваў у Херсонскай, пасля Самарскай губернях. У траўні 1874 г. з-за пагрозы арышту быў змушаны эміграваць. У Расіі ён быў залічаны ў спіс небяспечных дзяржаўных злачынцаў. Шлях на радзіму ў Беларусь быў зачынены да канца жыцця.

У эміграцыі спярша жыў у Лондане, але ўжо летам 1875 г. перабраўся ў Румынію. Там займаецца лекарскай практыкай, арганізоўвае сацыял-дэмакратычны рух. Ён таксама актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы антытурэцкага паўстання ў Балгарыі ў 1876 г. У гэты час узяў псеўданім Нікалас Русель, пад якім жыў да канца сваіх дзён. Неўзабаве скончыў універсітэт у Бухарэсце. Нягледзячы на тое, што за ўратаванне соцень хворых і параненых румынскі ўрад узнагародзіў Судзілоўскага залатым медалём, у 1881 г. улады за рэвалюцыйную дзейнасць выслалі яго, як і іншых сацыялістаў, у Канстанцінопаль. Потым жыў у Жэневе і Парыжы, зноў у Балгарыі, але ў 1887 г. пакінуў Еўропу.

У Амерыцы Судзілоўскі жыў у Нью-Йорку, пасля перабраўся ў Сан-Францыска, дзе меў лекарскую практыку. Надрукаваў некалькі навуковых артыкулаў, абраны віцэ-прэзідэнтам грэцка-руска-славянскага таварыства.

Пражыўшы 5 гадоў у Каліфорніі, у 1892 г. пераехаў на Гавайскія выспы, дзе працаваў лекарам. Пасля захопу амерыканцамі астравоў, Русель актыўна ўключыўся ў змаганне за незалежнасць палінезійцаў-канакоў. Урэшце стаў мясцовым сенатарам, а потым і прэзідэнтам Сената Гаваяў — калегіяльнай установы федэральнай тэрыторыі ЗША. Пасля выхаду ў адстаўку пераехаў у кітайскі Шанхай. У 1905 г. быў ужо ў Японіі. Арганізаваў там камітэт дапамогі расейскім ваеннапалонным, стварыў для непісьменных салдат школы. З яго дапамогай у Нагасакі сацыялісты пачалі выпускаць рэвалюцыйную газету „Воля". У Токіо Судзілоўскі выпускаў газету „Усходні агляд", дапамагаў японскім дэмакратам выпускаць часопіс „Рэвалюцыйны веснік", праводзіў прапаганду сацыялістычных ідэй.

У 1912 г. нястомны Судзілоўскі пераехаў на Філіпіны. Там, акрамя медыцынскай практыкі, займаўся грамадскай і асветніцкай дзейнасцю. Потым вярнуўся ў Японію. Лютаўскую рэвалюцыю ў Расіі прыняў з энтузіязмам, а вось бальшавіцкага перавароту 1917 г. не падтрымаў.

У 1921 г. доктар Русель пасяліўся ў кітайскім горадзе Цяньцзынь. Памёр гэты легендарны чалавек 30 красавіка 1930 г. у амаль 80-гадовым узросце. Цела яго, паводле ўсходняй традыцыі, было спаленае. Так скончыўся зямны шлях нязрымслівага падарожніка і змагара за сацыяльную роўнасць. Судзілоўскі — чалавек, які адкрыў шэраг астравоў цэнтральнай часткі Ціхага акіяна, пакінуў каштоўныя геаграфічныя апісанні Гаваяў і Філіпін. Доктар, з імем якога звязаныя пэўныя дасягненні ў хірургіі, тэорыі розных хвароб. Яму належаць некалькі важных прац па медыцыне. Быў сябрам Амерыканскага таварыства генетыкаў, розных навуковых таварыстваў Японіі і Кітая, валодаў дзесяццю мовамі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Фота Анны Сабэцкай

Фота Тадэуш Урбан

■ Юбіляр з жонкай Аннай

■ Юбіляр прымае віншаванні ад Анны Сабэцкай

# Юбілей Чэслава Мекіна

Чытаю ў «Ніве», што Алесю Барскаму 2 лістапада споўнілася 85 гадоў, а нашаму тут, значыць на Прымор'і, сябру Чэславу Мекіну 85 гадоў споўнілася 3 лістапада. Па розных жыццёвых прычынах юбілей наш сябра святкаваў 5 снежня ў сядзібе Беларускага культурнага таварыства «Хатка» ў Сопаце ў прысутнасці сяброў. Як бачым на здымках, юбіляр трымае добрую форму і не наракае на здароўе.

Пры нагодзе юбілею адбылася прамоцыя яго кнігі прозы і паэзіі «Wspomnienia i refleksje z pogranicza» (Gdańsk 2015). Гэта дакументальная, але і мастацкая аповесць аб жыцці юбіляра. Зацікаўленне кнігай было такое, што аўтару гэтай карэспандэнцыі не ўдалося набыць кнігі ў час прамоцыі. Вельмі ўдалае выданне. На 500 старонках змешчаны ўспаміны, рэфлексіі з мінулага і сучаснага, вершы, ілюстрацыі, здымак. Праўда, Чэслаў Мекін пісаў вершы, можна сказаць, у шуфляду і на сямейныя ўрачыстасці, але прыйшоў час, каб заіснавалі яны ў іншай, літаратурнай прасторы. Апрача беларускай прадмовы Адама Мальдзіса, шматгадовага сябры з беларускага і ўжо польскага перыяду жыцця юбіляра, успаміны і рэфлексіі напісаны на польскай мове.

Юбіляр і аўтар кнігі нарадзіўся ў мясцовасці Стасін што на Беларусі. Апынуўся з сям'ёй у Польшчы ў 1967 годзе, калі эміграваў з Беларусі. Многагадовы жыхар Гданьска цяпер жыве ў спакойным Сопаце. Па прафесіі ён чыгуначнік. Да выхаду на пенсію працаваў на чыгунцы. Ад пачатку існавання БКТ «Хатка» (ад 1993 г.) з'яўляецца яе актыўным членам, а з 2013 года выконвае абавязкі намесніка старшыні. **Міхась КУПТЭЛЬ**

# Пераможцы турніру настольнага тэніса

5 снежня гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове адбыўся турнір настольнага тэніса, у якім магла ўдзельнічаць ахвотная моладзь і дарослыя не толькі з Нараўчанскай гміны. Спаборніцтва тэнісістаў адбылося ўжо дзявяты раз запар. Арганізуюць яго Павятовае праўленне ЛЗС у Гайнаўцы (старшынствуе яму Андрэй Скепка, намеснік бургамістра Гайнаўкі), Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы і стараляўкоўская святліца. Сёлета ўдзельнічала ў ім 30 школьнікаў і 28 дарослых асоб. Былі чатыры катэгорыі паводле ўзросту.

У катэгорыі „пачатковая школа" сярод дзяўчат першае месца заваявала Магдаліна Лясота з Ляўкова, другое — Вераніка Краснапольская з Нараўкі і трэцяе месца — Габрыеля Рэцько з Ляўкова, а сярод юнакоў найлепш сябе адрэкамендаваў Каміль Нарэўскі з Беластока, другое месца заняў Кшыштаф Нарэўскі таксама з Беластока ды трэцяе месца — Якуб Кардаш з Ляўкова.

У катэгорыі „гімназісты" сярод гімназістак першынство заваявала Караліна Каравай з Нараўкі, другое месца заняла Вікторыя Патонец з Ляўкова і трэцяе месца — Юлія Лясота з Ляўкова. У групе гімназістаў верхаводзіў Данель Анцутка з Нараўкі, другое месца заваяваў Якуб Ламашкевіч з Нараўкі і трэцяе месца заняў Давід Целушэцкі з Ляўкова.

Сярод сеніёрак найлепш адрэкамендавалі сябе Кацярына Мазурэк (I месца), Эмануэля Міраповіч (II месца) і Клаўдзія Лясота (III месца) з Ляўкова ды сярод сеніёраў Данель Грыц з Нараўкі, Лукаш Світальскі з Чаромхі і Тамаш Харкевіч з Ляўкова (яны па чарзе ад I да III месца).

З жанчын ва ўзросце да 40 гадоў першае месца заняла Аліна Аўрук з Шымкаў (Міхалоўская гміна), другое — Моніка Міраповіч з Ляўкова і трэцяе месца — Дарота Лясота з Ляўкова. З групы мужчын ва ўзросце да 50 гадоў першае месца заваяваў Януш Ліпінскі з Чаромхі, другое — Януш Людвічак з Гайнаўкі і трэцяе месца — Юрый Мечынскі з Гайнаўкі. **(яц)**

# Нічым не пацешылі

З 13 снежня абавязвае новы расклад язды ПКП. „Гэта перадсвяточны падарунак. З новым раскладам паедзеш хутчэй і выгадней", — так рэкламуецца ПКП. У карыстанне ўводзяцца мадэрнізаваныя і новыя цягнікі. Суполка „Інтэрсіты", напрыклад, купіла 20 цягнікоў тыпу „Flirt" і 20 цягнікоў тыпу „Dard". Дагэтуль толькі адзін з апошніх быў здадзены ў эксплуатацыю. Апошніх дзевятнаццаць „Інтэрсіты" вумушана будзе забраць ад вытворчай фірмы „ПЭСА Быдгашч" да канца года, інакш будзе страчана еўрасаюзная датацыя. З новым раскладам „Інтэрсіты" ўводзіць дваццаць новых рэгіянальных спалучэнняў. Такой дабрадзейнасцю пакарыстаюцца падарожныя між іншым на лініі Ольштын — Беласток.

А што прапануе суполка „Рэгіянальныя перавозы"? Гэты перавозчык з новым раскладам уводзіць дваццаць адзін мадэрнізаваных цягнікоў з еўрасаюзных сродкаў. Не тычыцца гэта Падляшскага ваяводства. Тут з новым раскладам уводзяцца касметычныя змены. Пакарыстаюся прыкладам лініі Чаромха — Гайнаўка, затым Чаромха — Беласток. На першай лініі па-даўнейшаму курсіруе чатыры пары цягнікоў. Час падарожжа — 31 мінута. І так:

**Чаромха — Гайнаўка (ад'езд): 6:45** (у Гайнаўцы 7:16), **9:55** (10:26), **15:21** (15:52), **19:26** (19:57).

**Гайнаўка — Чаромха: 5:03** (5:34), **7:27** (7:58), **14:40** (15:11), **16:05** (16:36).

На лініі Чаромха — Беласток па-ранейшаму дзве пары цягнікоў. Час падарожжа 1 гадз. 35 мінут.

**Чаромха — Беласток (ад'езд)**: **5:44** (у Беластоку — 7:19), **15:26** (17:09).

**Беласток — Чаромха: 6:40** (8:16), **15:52** (17:35). **(ус)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | 19 | 20 | 21 | 22 |

1. крывяносны сасуд з... вальсам і Гофбургам = 5 _ 15 _ 3 _ 4 _;
2. растучы пучок травы са здзеравянелымі галінамі = 21 _ 6 _ 9 _ 13 _;
3. замужняе прозвішча Марыі Складоўскай, лаўрэаткі Нобелеўскіх прэмій па фізыцы (1903) і хіміі (1911) = 7 _ 16 _ 11 _ 12 _;
4. тонка ссуканая пража ў... жаніцьбе = 14 _ 22 _ 17 _ 18 _;
5. 3,14 = 10 _ 8 _;
6. прыродная мінеральная сыравіна са злучэннямі металаў = 19 _ 20 _ 2 _ 1 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Груд, канат, Сураж, Барскі, агонь, Пенза, полымя, рэйд, пешка.

Рашэнне: **У суд на Бога не пойдзеш.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 20.12 — 26.12

**(22.03. — 20.04.)** Маеш шанцы вырашыць аб чымсьці, што значна паўплывае на тваю будучыню. Калі ты няўпэўнены, пачакай з рашэннем пару месяцаў. Твая праца будзе дацэнена. Вернецца добры настрой і ўнутраны спакой. Але не стаў усяго на адну карту, думай рацыянальна і ўмей адступіцца. Не памыліся і не давядзі да канфлікту з шэфам. Не дай падстаў да плётак, якія могуць цябе асмяшыць.

**(21.04. — 21.05.)** Ажыўленае кампанейскае жыццё будзе спрыяць важным зменам. Чакаюць цябе выбары, якія добра абдумай. Добры час для інтарэсаў і фінансаў. Прадбачваецца няўхільная эвалюцыя, нявыключана, што звязаная са зменай жылля ці нават даўжэйшым выездам. Не адкладвай на пасля складаных спраў, займіся імі ў першую чаргу.

**(22.05. — 22.06.)** Чакае цябе ўзнагарода. Урэшце знойдзеш час на адпачынак. Неўзабаве з аптымізмам глянеш у будучыню. Канец фінансавых праблем, прыліў пазітыўнай энергіі, што дасць магчымасць прафесійнага поспеху. Калі хварэеш, паправішся. З новымі сіламі і развагай адбудуеш раскіданае. Добрая парада блізкай асобы паможа выбрацца з кабалы.

**(23.06. — 23.07.)** Вернецца надзея, што тваіх стараннаў будзе дастаткова, каб дасягнуць сваёй мэты з мараў. Энергіі хопіць, каб пазбыцца ўласных слабасцей і страхаў, зможаш пераадолець перашкоды лёсу. Хаця вынікі тваёй працы не такія пэўныя. Не адкідвай дапамогі лаяльнага сябра. Часовае ачараванне можа нарабіць у тваім жыцці замяшання. Ідзі за голасам сэрца.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш змагацца з праціўнасцямі лёсу, але пераможаш, калі будзеш псіхічна і фізічна моцны. Мусіш больш задбаць аб сваю кандыцыю, дадаць арганізму пазітыўнай энергіі. Добра гэта паўплывае на твой выгляд, паправіць настрой. Паверыш ва ўласныя магчымасці. Памятай, што ты працавіты і трывалы. Развяжаш старыя праблемы і ўкрочыш у новы год з чыстым рахункам.

**(24.08. — 23.09.)** Калі маеш вялікую ахвоту на змены ў сваім жыцці — цяпер на гэта адпаведны момант. Многа неспадзяванак звязаных з падарожжамі. Бяспечна дабярэшся туды, куды хочаш і дасягнеш мэты. Можаш пачаць новае жыццё, пашырыць гарызонты і адкрыць дасюль нябачаныя каштоўнасці. Вернецца твой унутраны спакой, нервы супакояцца.

**(24.09. — 23.10.)** Твае прыродныя здольнасці ўзмоцняцца. Развінецца твая творчая ўява, духоўныя сілы і моцныя эмоцыі да людзей, натуры і звяроў. Дастасуеш сваю дыету да свайго натуральнага біялагічнага гадзінніка. Чакае цябе час пачатку гарманічнага і поўнага радасці жыцця.

**(24.10. — 22.11.)** Узмоцніцца твая ўпэўненасць у тым, што ўсё добра складзецца і сітуацыя паправіцца. Мусіш толькі выказацца развагай і цярплівасцю. Прыдасца таксама практычная кемлівасць. З яе дапамогай справішся з «хвастамі» і сарганізуеш сабе працу. Задбаеш пра кожную дэталь. Ты адказны, разважны і паслядоўны ў сваіх дзеяннях і не адпачнеш, пакуль не дасягнеш сваёй мэты.

**(23.11. — 22.12.)** Удалося табе ўжо шмат дасягнуць, але на гэтым не спыняйся. Сітуацыя добрая, дык выкарыстай гэта, ажыццяўляючы свае новыя задумы. Вырашаючы аб чымсьці, кіруйся інтуіцыяй, асабліва калі гаворка пра прафесію. Адкрыеш у сабе новыя магчымасці. Чакае цябе падарожжа звязанае з прафесіяй, вельмі ўдалае, якое можа давесці да новага пералому ў тваім жыцці. Праз пару тыдняў выйдзеш на простую дарогу.

**(23.12. — 20.01.)** Маеш у сабе штосьці магічнае, што дае табе магчымасць адкрываць таксама закрытыя асобы. Гэтая рыса яшчэ больш развінецца, дазволіць табе на змену працы. Пры табе жанчына з багатай уявай, інтэлігентная, пачуццёвая — пад яе ўплывам можаш заняцца дабрачыннай дзейнасцю; людзі будуць шукаць у цябе парады і дапамогі. Праз пару тыдняў кончацца ўсе твае цяжкасці, перш за ўсё маёмасныя.

**(21.01. — 19.02.)** Калі цяперашняя сітуацыя цябе мучыць, можаш парваць з ёю, звычкамі і нават знаёмствамі. Прачніся і прыступі да дзеянняў. Над тваёй парай цёмныя хмары, але калі ты ўпэўнены, што варта, пазмагайся дзеля яе ўратавання. Калі для цябе гэтая сувязь стала цяжарам і не ўносіць у тваё жыццё радасці, адмоўся, бо перад табою новыя перспектывы. Прыглядзься сваім памылкам.

**(20.02. — 21.03.)** Настрой крыху настальгічны, прыгадаецца табе дзяцінства, калі ўсё было простае, а мары магла хутка здзейсніць добрая фея. Зрабі сабе пару дзён адпачынку, наведай месцы, выклікаючыя мілыя ўспаміны. Хтосьці або штосьці з мінулага будзе мець уплыў на кшталт тваёй будучыні. Сантыментальнае падарожжа асвяжыць твае амбіцыі і мары. Але перфектыўна падрыхтуйся і думай лагічна.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Я шчэ ў дарозе асцерагалі мяне, каб самотна не бадзяцца позним вечарам па вуліцах Дубровіцы. Там, паўтаралі паўшэптам, можна наткнуцца на перастрэлку бурштынавых гангаў. Як не дзіўна, усе гэтыя перасцярогі дзейнічалі як магніт і толькі падбівалі прагу дастацца ў мястэчка. За гэтым прамаўляла лагістыка. Якраз у Дубровіцы я дамовілася з Васем, які з даручэння сустрэтых раней у дарозе людзей паабяцаўся завезці мяне на поле, дзе дзіка капаюць бурштын. Паколькі наша сустрэча была назначана праз дзень, я рашыла пасяліцца ў гасцініцы «Дружба». Тут, паводле падказак, мелі начаваць дзелавітыя мужыкі, якія пасярэднічалі ў гандлі янтарам. Мне хацелася верыць, што ўся бурштынавая тэма будзе пададзена на элегантным падносе. Гэтае пачуццё мацаваў экзатычны дэкор хола ў «Дружбе», дзе быццам у джунглях, ажно пад столь, уздымаліся какосавыя пальмы...

Дубровіца аднак ачаравала іншай прынадай.



# У палескай глыбінцы (26)

* * *

— А што варта пабачыць у горадзе? — спытала я ў адміністрацыі гатэля.

— Заўтра ў нас базар, — пачула я ў адказ, — гэтага нельга абмінуць.

— Там нешта асаблівае прадаюць?

— Дык не, — здзівілася ў сваю чаргу жанчына, — нармальна, як кругом...

Ужо з першага погляду Дубровіца здалася дзіўна знаёмай. Я хадзіла па вуліцах горада і адчувала сябе свабоднай, як у знаёмым лесе. Гэтае пачуццё свойскасці і непрыкметнасці яшчэ больш мацавалася, калі выпадковыя мінакі пыталі пра дарогу. Ніхто пры мне не спыняў размовы, не глядзеў услед, не прапанаваў абмяняць валюту. Адначасова ў галаву і цела вярталася атмасфера роднай мовы, з закуткаў памяці выходзілі архаічныя прызабытыя словы, вобразы і эмоцыі. З падобнай увагай я ўспрымала генетычны краявід — людзі, якія перамяшчаліся побач, напаміналі знаёмых, сваякоў, аднавяскоўцаў.

Раніцай у чацвер я пашыбавала на базар. Ён пачынаўся ўжо за гасцініцай, і цягнуўся пакручастым лабірынтам два кіламетры. На прылаўках царыла кітайская вопратка і прылады, аднак мяне вабіла іншая панарама. На рынак, старадаўнім звычаем, з'ехаліся жыхары навакольных вёсак. Чырванашчокія гаспадыні, дзелавітыя мужыкі, зухаватая кавалерка.

Пры кожным прылаўку гучала асобная гаворка. Раз напамінала яна збеларушчаную гаворку, як у Перабродах, іншы раз гучала як «мяккая» падляшская мова ў нашых Чыжах, або «цвёрдая» ў Орлі. Паміж імі чуліся яшчэ гаворкі падобныя на сербскую мову. Як не цікава, палова рынку прыехала з-за мяжы, з беларускага Палесся. Я хадзіла і безупынна здзіўлялася: як гэта магчыма — менавіта — як гэта магчыма?! Ніхто на дубровіцкім базары не гаварыў па-руску.

На «адступленне ад дэфініцыі» я наткнулася пры машынах з беларускімі нумарамі. Тут выстойвалі крутыя мужыкі ў скуранках, смалілі папяросы і рагаталі. Калі я адазвалася па-беларуску, то-бок, спытала, чым добрым яны гандлююць, у кампаніі запанавала мёртвая ціш. Прыехалі ажно з Магілёва. А які бізнес прывёў ажно ў Дубровіцу?

— Здесь нет у нас никакого бизнеса, — адказаў за ўсіх адзін у скуранцы, — просто посмотреть приехали.

Паколькі мае субяседнікі вылучаліся бізнесавай шустрасцю і каўказскім выглядам, самі складалі цікавы аб'ект для назірання.

* * *

Дубровіцкі базар прамаўляў не толькі на чалавечай мове. Свой голас падаваў выстаўлены на продаж тавар. Між прылаўкамі гагаталі гусі, вішчалі парасяты, кукарэкалі пеўні, балбаталі індыкі, мэкала каза. Звярына прадчувала свой канец. Побач жывога тавару стаялі стэнды з аб'явамі пра рытуальныя паслугі. На іх быў пададзены кошт дамавіны, намагільнага вянка і касцюма для нябожчыка. Іншыя стэнды інфармавалі пра кошт намагільных помнікаў з граніту і штучнага мармуру. Непадалёк красаваліся прылаўкі са шлюбнымі сукенкамі і касцюмамі. Яны напаміналі часовы салон. За спецыяльнай занавескай можна было памераць адзенне і паглядзець на сябе ў вялікім падвойным люстры.







Я пазнаёмілася з Русланам, які гандляваў мілітарнай вопраткай. Шмат добраахвотнікаў, якія ідуць на вайну, самі купляюць ваенную форму.

— На гэта патрэбна ад 500 да 1000 грывень (прыблізна 50 долараў). Найбольш грошай трэба выкласці на чаравікі (500 грывень), найменш на кепку (50 грывень). А ёсць і такія, які купляюць адзенне за сто *баксаў*, — паясняе Руслан.

За нашай размовай пільна сочыць жанчына. У канцы сама бярэ голас, бо лічыць, што Руслан не сказаў найважнейшага:

— Не думайце, што ўсе мабілізаваныя купляюць гэтую вопратку. У нас завялася такая мода на салдацкі манер. Зараз усе мужыкі, ад калгасніка па прэзідэнта, апранаюцца ў вайсковыя апранахі. Нават дзяўчаты. Яны найбольш хочуць выглядаць баявіта.

Пад уплывам апошняй весткі я таксама набыла вайсковую футболку (Т-шырт) за адзіныя тры долары.

* * *

Дубровіцкі базар, так як і сто гадоў раней, не мог звычайна разысціся па хатах, раз'ехацца на машынах. Адразу пасля пакупак народ цягнуў у бар. У кафэ-бары «Піца» ўсе сталы занялі дзелавітыя мужыкі. Яны што і раз заказвалі на стол бутэльку гарэлкі і сціплую закусь у выглядзе пакроенай у скрылікі каўбасы і хлеба. Паколькі кожны жадаў выказаць сваё меркаванне адначасна, іх бяседа напамінала лесарубку. Я прысела пры бары, дзе дробнымі глыткамі смакавала кавусю «амерыкана». Мая асоба напамінала тормаз на рухавай вуліцы. Па левай і правай руцэ прыгодныя наведвальнікі ў спеху перахілялі сто грам, здорава «ухалі» ды выбягалі на вуліцу. На іх месца прыбывалі наступныя і яшчэ наступныя. У пэўны момант побач спынілася вясковае сужонства з пакетамі. Жонка заказала сто грам і адбіўную катлетку з бульбай для мужа. Сама яна прысела бокам і з насцягрогай назірала строгі твар свайго шлюбнага — ці хоць яму смакуе? Сама абышлася чыстым смакам і толькі глытала слінку.

Я крадком глядзела на сцэну і нібыта здзіўлялася пабачаным. Аднак, гэтая форма сямейнага «суладдзя» чамусьці мяне не здзіўляла!

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960